


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

29 МАЯ 1998 Г. № 22/3950 КОШТ 4 000 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на наш тыднёвік на другое паўгоддзе 1998 года. Спадзяёмся, што Вы, нашы прыхільнікі і аднадумцы, не пакінеце сябе без "ЛіМа"...*

*Кошт падпіскі застаўся ранейшым. Для індывідуальных падпісчыкаў кошт на адзін месяц — **15 тысяч рублёў**, на квартал — **45 тысяч** і на паўгоддзе — **90 тысяч.***

***Наш індэкс — 63856.***



# Святкуе... народ беларускі

Калі б не дождж і халадэча, у цэнтр Гародні наогул было б тымі днямі не прабіцца... Ды, зрэшты, непагадзь не адпрэчыла людзей ад свята: тысячы гасцей-удзельнікаў сабраў Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур! Яны спявалі ды танчылі проста на гарадзенскіх вуліцах; дэманстравалі адмысловыя строі сваіх продкаў і частавалі экзатычнымі стравамі; ладзілі нацыянальныя спаборніцтвы і цешылі грамаду народным жартам. Яны — гэта татары, малдаване, азербайджанцы, яўрэі, рускія, палякі, немцы, армяне, карэйцы, летувісы, грузіны, украінцы... Што тут пералічваць — прадстаўнікі многіх нацый, якія звязалі свой лёс з нашым краем, якія здавён ці з часоў нядаўніх жывуць побач з беларусамі, шануюць іх мову і традыцыі, не забываючыся на сваё. І — пачуваюць сябе ў родным мірным доме, часцінкай годнага народа, які будуе сваю дзяржаву.

Кажуць, калі штосьці адбываецца ўпершыню, гэта можа стацца выпадковасцю; калі двойчы — можа быць супадзеннем; а трэцім разам гэта ўжо, безумоўна, — заканамернасць. Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур прайшоў двойчы. І гэта — не супадзенне. Усе, хто спрычыніўся да унікальнага, насамрэч **беларускага інтэрнацыянальнага** свята, чакаюць наступных сустрэч у Гародні.

*Фота Віт. АМІНАВА*





## Усё пачалося ў дзяцінстве



**Калі б развешаць па сценах кватэры Валянціны Сяргееўны Шаблінскай (на здымку) толькі тыя вязаныя вырабы, што захоўваюцца ў яе дома, то атрымалася б сапраўдная выстава да 80-годдзя майстрыхі. А колькі яе работ упрыгожвае побыт жыхароў Лагойшчыны! Іх проста не пералічыць!**

**А пачалося ўсё з дзяцінства. У яе роднай вёсцы Юркі на Гомельшчыне лічылася, што дзяўчынка павінна быць рукадзельніцай. Вось і вучылася Валянціна Сяргееўна ў маці і суседак усім сакрэтам рукадзелля, вязання. І праз усё жыццё — і калі настаўнічала на Лагойшчыне, і выйшаўшы на пенсію, пранесла Валянціна Сяргееўна любоў і жаданне да вязання, да творчасці, якое вылілася ў яе самабытныя вырабы.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Ансамблю "Дударыкі" — 10 гадоў



**Добра вядомаму на Гарадзеншчыне дзіцячаму фальклорнаму ансамблю "Гарадзенскія дударыкі" споўнілася 10 гадоў. Юныя музыкі любяць беларускую песню, ахвотна бяруць удзел у самых разнастайных імпрэзах.**

**А згуртаваў таленавітых дзяцей іх старэйшы сябра — самадзейны кампазітар Яўген Петрашэвіч, — руплівец на ніве музычнай творчасці, якога вы і бачыце на здымку.**

**М. ВАСІЛЕВІЧ**

## Запрашае кінатэатр "Змена"

**3 чэрвеня а 19-ай гадзіне на кінапраграму, прысвечаную святкаванню Агульнанароднага дня Святой Еўфрасінні Полацкай.**

**На сустрэчы з кінагледачамі:**

**— Валянціна Коўтун, пісьменніца, прэзідэнт Усебеларускага жаночага фонду Святой Еўфрасінні Полацкай;**

**— Уладзімір Арлоў, пісьменнік;**

**— Вольга Дадзіёмава, музыказнаўца.**

**Прагляд дакументальных фільмаў студыі "Летапіс", "Еўфрасіння Полацкая", "Усяслаў Чарадзей".**

**Гучаць "Песнапенні Еўфрасінні Полацкай".**

# Ёсць літаратура — ёсць народ

27 мая адбылося першае — арганізацыйнае — пасяджэнне абранай на з'ездзе рады СБП. З інфармацыяй пра апошнія падзеі жыцця і дзейнасці пісьменніцкага саюза выступіў старшыня СБП Уладзімір Някляеў. Ён прапанаваў траіх сваіх намеснікаў, якія не выклікалі асаблівага сумневу "радцаў". Тайным галасаваннем намеснікамі старшыні пісьменніцкай суполкі сталі: **Вольга Іпатава** (па творчых пытаннях), **Віктар Жак** (па арганізацыйных пытаннях) і **Вячаслаў Мачульскі** (па прававых і фінансава-гаспадарчых пытаннях). Прозвішча вядомай нашай паэткі, пісьменніцы, публіцысткі В. Іпатавай не мае патрэбы ў каментарыях, а вось што да двух іншых... Тлумачым: Віктар Герасімавіч Жак — выкладчык палітэхакадэміі, вядомы ў нашай краіне кніжнік, арганізатар шматлікіх літаратурных імпрэз самага рознага ўзроўню і характару; Вячаслаў Антонавіч Мачульскі — юрыст па адукацыі з вопытам работы ў праваахоўных і гаспадарчых структурах, ягоныя веды і практычны вопыт прыдадуцца ў сённяшні складаны час пісьменніцкай арганізацыі.

На пасяджэнні адбыўся абмен думкамі адносна наладжвання жыцця пісьменніцкай суполкі ў новых, так званых рынкавых, варунках. У гаворцы пра гэта прынялі ўдзел Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, В. Ярац, У. Паўлаў, М. Скобла, М. Мятліцкі, Г. Далідовіч, В. Адамчык, Р. Баравікова, В. Коўтун, А. Вярцінскі, А. Дудараў і інш.

**Н. К.**

## Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў

1. Адамчык В.
2. Андраюк С.
3. Арлоў У.
4. Барадулін Р.
5. Баравікова Р.
6. Бічэль-Загнетава Д.
7. Блакіт В.
8. Будзінас Я.
9. Бураўкін Г.
10. Быкаў В.
11. Врановіч А.
12. Вольскі А.
13. Вярцінскі А.
14. Гілевіч Н.
15. Гніламёдаў У.
16. Далідовіч Г.
17. Дамашэвіч У.
18. Дранько-Майсюк Л.
19. Дудараў А.
20. Жук Ал.
21. Законнікаў С.
22. Зуёнак В.
23. Іпатава В.
24. Каваленка В.
25. Казько В.
26. Камейша К.
27. Карамазаў В.
28. Карызна У.
29. Каско А.
30. Коўтун В.
31. Кудравец А.
32. Ліпскі У.
33. Лойка А.
34. Мальдзіс А.
35. Масарэнка А.
36. Мятліцкі М.
37. Навуменка І.
38. Някляеў У.
39. Паўлаў У.
40. Пісьмянкоў А.
41. Пташнікаў І.
42. Рагойша В.
43. Разанаў А.
44. Салтук А.
45. Сіпакоў Я.
46. Скобла М.
47. Федарэнка А.
48. Цвірка К.
49. Шамякін І.
50. Ягоўдзік У.
51. Ярац В.

## Праўленне Літфонду СБП

1. Баравікова Р.
2. Будзінас Я.
3. Камароўскі А.
4. Каршукоў Я.
5. Конан У.
6. Місько П.
7. Рублеўская Л.
8. Станкевіч Ю.
9. Сульянаў А.

## Рэвізійная камісія СБП

1. Гардзей В.
2. Зэкаў А.
3. Клышка А.
4. Маляўка М.
5. Міклашэўскі Я.
6. Петрашкевіч А.
7. Пятровіч Б.
8. Рыбак А.
9. Стома В.
10. Чарказян Г.
11. Шніп В.

МЕРКАВАННЕ

# Рух у невядомым напрамку

*О Русь... Куда несешься ты?!*
*М. Гоголь.*

Пастаянныя гледачы маскоўскай праграмы НТБ "Про это" не дадуць схлусіць, што героямі яе пераважна з'яўляюцца асобы, мякка кажучы, не зусім здаровыя з псіхічнага і маральнага бакоў гледжання. Але, між тым, амаль усе яны цвёрда пераканаваны ва ўласнай звышпаўнавартаснасці аж да такой ступені, што нахабна лезуць на тэлеэкран, каб не толькі прадэманстраваць, але і прарэкламаваць шматмільённай аўдыторыі хібы і заганы свайго арганізма ды выхавання, свядома ганарацца імі, як калісьці недалёкія іспанскія гранды ганарыліся "дурной хваробай", прывезенай з-за акіяна, сляды каторай на іхніх тварах былі дакладна бачныя кожнаму.

Тым не менш, здаецца, упершыню настолькі выразна з эфіру 16 мая замільгацеў метафарычны вобраз "Расіі на панелі", якая, між іншым, не толькі не спрабуе апраўдацца ў сваім ганебным занятку, але і ганарыцца сваёй заганнасцю, з упартасцю прапагандуе яе, відаць, жадаючы спадабацца зайздросным на чужыя грошы "малодшым братам"-немаўляткам, якія яшчэ не бачылі "сапраўднага" жыцця. Гэта якраз тая краіна, пра якую некалі Ф. Дастаеўскі сказаў: "Расія без Бога — гэта ўсеагульны хаос і савакупленне".

Калі яшчэ ў 1986 годзе з тэлеэкрана разгубленая жанчына на поўным сур'ёзе заяўляла, што "ў нашай краіне сексу няма", то зараз складваецца ўражанне, што ў той жа краіне не засталося ўжо амаль нічога, акрамя сексу...

...Вялікаўзроставы распешчаны недарostак з Нальчыка без ценю сораму з гонарам прызнаваўся, што з дванаццаці гадоў пастаянна кантактуе з прадстаўніцамі найстаражытнай прафесіі, да чаго, дарэчы, прывучыў яго... уласны бацька, які і сам маху не дасць. Хлопец гэты не збіраецца, між іншым, мяняць свае звычкі ў будучым шлюбе, а жонку сваю, тым не менш, жадае бачыць толькі цнатлівай...

Другая асоба з каўказскім акцэнтам — ужо ў спадніцы, маці двух дзяцей — пахвалялася, што не так даўно авалодала гэтым рамяством і амаль у імгненне вока разбагацела. Зараз яна ні ў чым сабе не адмаўляе і збіраецца замуж за "маладога", які падтрымлівае яе цяперашні занятак, таму яна і не думае кідаць яго ў будучым замужжы...

Прадстаўніца названай прафесіі "славянскай нацыянальнасці" распавядала пра кантынгент кліентаў і паслугі, якія яна робіць за "памяркоўную" плату. Між іншым, яна пасакрэтнічала, што не адчувае аргазму з прадстаўнікамі супрацьлеглага полу і таму, кінуўшы мужа, збегла да каханай сяброўкі...

Безгалосая эстрадная спявачка паспрабавала "абвергнуць" чуткі пра сябе як прастытутку, заўважыўшы, што "бярэ" не грашыма, а выключна каштоўнымі падарункамі. А сярод "дарыльшчыкаў" ёсць нават два дэпутаты Дзяржаўнай Думы. На пытанне глядзельнай залы, ці магла б яна адважыцца "мець справу" з цікавым для яе, але бедным мужчынам, спявачка паскардзілася, што проста не можа знайсці такога...

Як бачым, Божы Дар Кахання ва ўсіх вышэйзгаданых выпадках абсалютна ні пры чым, пра што, дарэчы, і выказаліся самі ўдзельнікі перадачы зусім аднагнача.

У заключэнне, як заўсёды, прагучала рэзюме спецыяліста аб згаданай прафесіі. Праца, маўляў, занадта складаная і вельмі ўжо цяжкая. Але... попыт выклікае прапанову і наадварот. Работа ёсць работа... Карацей кажучы, так ці інакш, заклікаў да канчатковай заканадаўчай легалізацыі падобных заняткаў.

Разбэшчанасць і распуста, якім шчыра і з апантанасцю сёння аддае даніну цяперашняя расійская моладзь, звонку могуць выклікаць толькі сумнае расчараванне ў людзях, якія ўпершыню пабачылі свабоду, але накіравалі свае памкненні і энергію нават не на задавальненне жывёльных патрэб, а на знішчэнне ўласнай чалавечай душы, усяго боскага ў сабе, на вярганне ў дахрысціянскія, паганскія часы. Так заўсёды робяць звычайныя рабы, на якіх амаль што з неба звалілася свабода...

Дарэчы, вобраз рускага народа ў нашых уяўленнях, якім яго малявалі ў кніжках яшчэ зусім нядаўна, выразна адрозніваецца ад таго, што мы можам сёння бачыць, чытаць, чуць, ведаць. А паўстае з расійскіх СМІ ні больш ні менш, як вобраз краіны — "Вавілонскай блудніцы", што едзе верхам на аслe ў невядомым напрамку, але тым не менш упэўненай, што толькі ёй адзінай ён і вядомы...

Усеагульная наркатызацыя моладзі, злачыннасць, што перавышае сёння ўсе вядомыя сусветныя маштабы, дзіцячая беспрытульнасць, беспрацоўе, голад і галеча, а на процілеглым полюсе — усёдазволенасць, разбэшчанасць "новых рускіх", нечуваная нават для гэтай краіны карумпаванасць ва ўсіх эшалонах бюракратычнай улады, — усё гэта цяперашняя Расія. Зараз высвятляецца, што і ў галіне распусты яна апантана імкнецца быць "впереди планеты всей"...

Цалкам верагодна, што ўжо ў недалёкім будучым ці не адзіным выйсцем з усяго гэтага блуду, бруду і багны ў адзін цудоўны дзень стане знаёмы вокліч "Зіг хайль!"

Ці ў каторы ўжо раз прарочымі аказваюцца словы П. Чаадаева пра тое, што прызначэнне Расіі быць адмоўным прыкладам для ўсяго астатняга свету?!

Чаму вучыцца нам, "малодшым братам", у сённяшняга "брата старэйшага"? Што пераймаць? Распусту? Але, відавочна, што ў нашых варунках гэта прывядзе да пагібелі куды хутчэйшай, бо "саўковы народ" у большасці сваёй ніяк не абаронены сваёй нацыянальнай культурай, не можа ў ёй схаваць сваю душу, бо адрокся, пагарджае і ненавідзіць яе. А гэта ўжо прамы шлях у пекла...

"Расія, ты звар'яцела!" — усклікнуў Ю. Каракін на наступны дзень пасля перамогі У. Жырыноўскага на думскіх выбарах 1993 года. Прыйшла пара пацвердзіць дакладнасць дыягназу...

**Ігар ПАНАМАРЭНКА**

*г. Мінск*

# Вольныя літаратары на ростані

***Прыкладна ў тыя дні, калі Саюз беларускіх пісьменнікаў "святкаваў" свой чарговы з'езд, яшчэ адна пісьменніцкая суполка мела ўсе падставы для свята — Таварыству Вольных Літаратараў споўнілася пяць гадоў.***

***На пачатку свайго існавання ТВЛ было досыць заўважнай з'явай, бадай, найперш таму, што яно падмацоўвала тэндэнцыю да "раздзяржаўлення" літаратурнага працэсу, распачатую "Тутэйшымі" і "Нашай Нівай". Падвялічваў цікаўнасць да ТВЛ і той факт, што ініцыятыва па стварэнні гэтай літарацкай супольнасці паходзіла не з Мінска і не ў Мінску "таварыства" разгортвала сваю дзейнасць. У той жа час ТВЛ не было звычайным рэгіянальным літгуртком, бо ставіла за мэту ахапіць сваімі ініцыятывамі прастору ўсёй літаратурнай Беларусі. І ў нейкай меры напачатку ў "тэвээлаўцаў" гэта атрымлівалася. Прынамсі, за некалькі год яны выпусцілі серыю паэтычных кніжак, наладзілі шэраг міжнародных канферэнцый, пачалі выдаваць "Ксэракс Беларускі", а затым часопіс "Калосьсе"... Але апошнім часам іх прысутнасць у айчынным літаратурным дыскурсе сталася менш заўважнай (ці гэта мне толькі здаецца?). Болей за тое, пайшлі чуткі, быццм ТВЛ ужо распалася, што рэальна яго няма і толькі з пэўных "палітычных" меркаванняў пра "смерць" ТВЛ не аб'яўляецца публічна.***

***Вось і я вырашыў высветліць у лідэра ТВЛ паэта Алеся АРКУША, які сціпла называе сябе "каардынатарам таварыства", што ў гэтых чутках ад звычайных літарацкіх плётак, а што ад сапраўднасці. Зрэшты, для гутаркі была і традыцыйная нагода — юбілей.***

**— Спадар Алесь, скептыкі жартуюць, што калі б у свой час Саюз беларускіх пісьменнікаў прыняў у свае члены некаторых будучых тэвээлаўцаў, то не было б ніякага Таварыства Вольных Літаратараў. Я не маю намеру ў нашай гутарцы разгортваць гэтую, пэўна, здзеклівую для вас тэзу, але не магу пазбегнуць пытання, адказ на якое, можа б, расплумачыў феномен з'яўлення суполкі. Чаму менавіта гэтыя (а не іншыя) літаратары аб'ядналіся ў "таварыства" і чаму, за рэдкімі выключэннямі, усе сябры ТВЛ паходзяць з трох гарадоў: Полацка, Гродна і Мінска. Ёсць жа яшчэ Віцебск, Гомель, Брэст... Зрэшты, дзе ў нас толькі не крэмзаюць паперу вершамі ці прозай? Як вы лічыце, гэта выпадковы збег акалічнасцяў ці за гэтым фактам "нешта" хаваецца?**

— Мы шчыра здзіўляемся, як магла Беларусь захавацца пры такіх неспрыяльных умовах. Беларускі perpetuum mobile — гэта трохкутнік Полацак—Мінск—Горадня. Яго "паліва" — супярэчнасці. Мінск — цэнтраімклівы рух, эклектычнасць, уніфікацыя, замкнёнасць у XX стагоддзі. Горадня — "вакно ў Еўропу", лібералізм (спадчыннасць ВКЛ), шляхетнасць дробнага шляхціца. Полацк — цяжар кананізаванай традыцыі, які не дае хістацца, плюс унутраныя супярэчнасці (што надаюць асаблівую трываласць): паганства — хрысціянства, кансерватызм — неакансерватызм, праваслаўе — уніяцтва; плюс крыўская харызма. Полацак і Горадня ўдала супраціўстаяць цэнтраімкліваму руху Мінска (хутчэй проста яго ігнаруюць). Полацкі кансерватызм (нацыянальны) і неакансерватызм (культурніцкі) супрацьстаяць гарадзенскаму (еўрапейскаму) лібералізму. Мінская чыноўнічая беларушчына, імкнецца не дапусціць праяваў полацкага крыўскага сепаратызму. (Гэта як Чачня саперннічае з Ічкерыяй). Усе гэтыя (узгаданы толькі дамінантныя) супярэчнасці не даюць патухнуць беларускаму вулкану. Паміж гэтымі трыма гарадамі цыркулюе ток, як кроў. Трохкутнік торгаецца, нібыта сэрца.

У найгоршых варунках у апошніх стагоддзях (XVIII—XX) апынуўся Полацак. Генацыд Полацка стаўся "северо-западной" палітыкай пасля таго, як у 1772 годзе, пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, правабярэжная частка Полацкага ваяводства была перайменавана ў правінцыю і далучана да Пскоўскай губерніі Расійскай імперыі. Першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Полацкі езуіцкі калегіум (з 1812 годаператвораны ў акадэмію) — была зачынена ў 1820 годзе. У гэтым жа годзе была ліквідавана Полацкая друкарня пры акадэміі, якая з 1787 па 1820 год выпусціла больш за 500 выданняў. Нішчылася ўсё: уніяцкая царква, іншыя, акрамя праваслаўных, храмы і веравызнанні, бібліятэкі, іншыя мовы, традыцыі, звычаі. Гэтакая глабальная уніфікацыя і сцерылізацыя. Полацкая эліта пасля закрыцця акадэміі перабралася ў Вільню (ці не вятры з Полаччыны і Гарадзеншчыны прынеслі ў Вільню насенне філаматаў-філарэтаў у 1817—1823 гг.? Вельмі ўжо трапна стыкуюцца лічбы гадоў!) Горад ператварылі ў глухое, правінцыйнае места. Але ўнутраныя супярэчнасці недзе глыбока віравалі, як магма. Пры першых падзвіжках "зямной кары" магма пайшла вонкі. На Полаччыне напрыканцы XX стагоддзя пачало паўставаць паганства (клуб "Княжыч" творчасць мастака Сяргея Цімохава, грамадскае аб'яднанне імя Усяслава Чарадзея, нават літаратурная прэмія ТВЛ называецца "Гліняны Вялес"), уніяцтва (уніяцкі манастыр у Полацку), мастацкія традыцыі (ад Лазара Богшы да Хруцкага) — усё гэта і ёсць праявы неакансерватызму. Пра культурніцкую спадчынную "магму" з полацкіх лёхаў добра напісаў Ластоўскі ў "Лабірынтах".

**— Прыгожая версія, але ці не залішне рамантычная ("сэрца", "вулкан"), каб на яе без ваганняў мог абаперціся той, хто паспрабуе рацыянальна патлумачыць з'яўленне ТВЛ якраз у гэтым "трохкутніку".**

— Магчыма, трохі і рамантычная, але менавіта на гэтым вулкане, на скрыжаванні супярэчнасцяў у 1993 годзе паўстала Таварыства Вольных Літаратараў. Большасць яго сяброў былі з Полацка, Горадні і Мінска. Відавочна, гэта быў нетрывалы саюз. Але ён дазволіў напоўніцу скарыстаць мажлівасці "адлігі" 1993—1995 гг. Была выдадзена серыя зборнікаў "Паэзія новай генерацыі", асобныя нумары альманаха "Ксэракс Беларускі", часопіса "Калосьсе", арганізавана шэраг канферэнцыяў, вечарынаў, імпрэзаў, акцыяў. ТВЛ было ў эпіцэнтры ўсіх эстэтычных і нават палітычных падзеяў у краіне. Дастаткова назваць асобныя імёны: Славамір Адамовіч, Юры Гумянюк, Лявон Вольскі, Ігар Сідарук, Вінцэсь Мудроў. Аднак хутка супярэчнасці пачалі выяўляцца напоўніцу. Першымі, адпаведна з нашай тэорыяй, сталі самавызначацца мінчукі. Частка заснавала свой літаратурны рух — "Бум-бам-літ" (Мінскевіч, Туровіч), іншыя заняліся выключна ўласнымі праектамі (Адамовіч, Вольскі). Баланс трохкутніка парушыўся. Усё прыкметней праяўляліся супярэчнасці (пераважна эстэтычныя) палачанаў з гарадзенцамі. Сёння іх разам утрымоўвае бадай што агульны праект — часопіс "Калосьсе". У гэтых умовах палачане вымушаны былі браць усё больш і больш ініцыятывы, праяўляць сваю харызму, і шукаць падтрымкі па-за межамі Беларусі. Вось такі атрымліваецца дэтэктыўны сюжэт. Амаль як з утварэннем БНР.

**— Мне неадночы даводзілася чуць, што вакол ТВЛ згуртаваліся нездары, што ўсе сапраўды таленавітыя ўступаюць у "дзяржаўны саюз" (досыць рызыкоўнае меркаванне), што "тэвээлаўцы" нічога вартага для беларускай літаратуры не зрабілі, а выдзеліліся ў нешта асобнае толькі дзеля таго, каб прыцягнуць да сябе ўвагу, "выставіцца". Наўрад ці мае сэнс усур'ёз спрачацца з падобнымі меркаваннямі, хіба адно з сумам заўважу, што ў сваёй пераважнай большасці беларускія літаратары не лішне абцяжарваюць сябе павагай да творчага набытку калегаў. Таму прапаную адразу, без марных дыскусіяў, звярнуцца да творчага набытку ТВЛ, тым болей, што кожны юбілей ёсць ні чым іншым, як падрахункам зробленага за пэўны прамежак часу.**

— Калі казаць пра дасягненні ТВЛ, дык гэта, безумоўна, паэзія тэвээлаўцаў. Яна сталася з'яваю свайго часу. Як, напрыклад, паэзія "Маладняка". Аднак паміж гэтымі культурніцкімі падзеямі няма паралеляў. Паэзія ТВЛ гадоў "адлігі" антысацыяльная і нават дэструктыўная (у адносінах да постсавецкай беларушчыны). Калі казаць па-іншаму — мадэрнісцкая. Яна супрацьстаяла шаблоннасці і канфармісцкасці афіцыйнай паэзіі. Традыцыі "Маладняка" (арганізацыя таксама існавала ў часы "адлігі" 1923—1928 гг.) павінны былі падоўжыць аўтары "Першацвету" (будаўніцтва новай Беларусі, Адраджэнне, нацыянальны ўздым, малады запал). Аднак эстэтычнай з'явы ў іх не атрымалася. Я сам дзіўлюся: чаму? (Уціск рэдактара? Адсутнасць тэарэтыкаў? Адсутнасць эстэтычных арыенціраў у выдання?) Тэза "ўзвышэнства" Алеся Пашкевіча, якую ён выкарыстаў, тэарэтызуючы вакол вершаў першацветаўцаў (няхай сабе размова ідзе толькі аб іх імкненнях), прыцягнута за вушы. У гэтай тэзы няма аніякай глебы.

З'ява паэзіі ТВЛ, якая цалкам ігнаруецца на радзіме, была заўважана летась у Польшчы. Шэраг польскіх выданняў актыўна перакладалі вершы тэвээлаўцаў. Падрахавала набыткі "паэзіі ТВЛ" выданне беластоцкага зборніка найноўшай беларускай паэзіі "За небакраем Еўропы". Сярод яго аўтараў: Славамір Адамовіч, Юры Гумянюк, Ігар Сідарук, Лявон Вольскі, блізкая да ТВЛ Людка Сільнова, якая развівалася ў эстэтычным полі таварыства, друкавалася ў яго выданнях. Шкадую, што ў свой час мы не надрукавалі паэтычны зборнік Міхала Анемпадыстава, — перамовы аб выданні яго вершаў ішлі. Аднак паэт так і не ўклаў для "Полацкае ляды" сваю кнігу, хаця друкаваўся побач з сябрамі ТВЛ у "ЗНО". Ён таксама сярод аўтараў беластоцкай анталогіі 90-х гадоў. Даходзяць чуткі, што тэвээлаўцаў пачалі друкаваць у Літве. Ці не падтрымка гэта балцкіх крэўнікаў, на якую мы ўжо згубілі надзею?

**— Здаецца, у Сакрата Яновіча я неяк прачытаў, што спеласць літаратуры вызначае не паэзія, а проза. Цяжка з ім не пагадзіцца. Вершы складаюць усюды, дзе дыхаюць, смяюцца і плачуць, а проза ўжо вымагае пэўнай меры прафесіяналізацыі, шырокага літаратурнага кантэксту, выдавецкай індустрыі і шмат чаго іншага. Дарэчы, гэтую сваю заўвагу Сакрат Яновіч зрабіў, разважаючы над творчасцю сяброў суполкі "Белавежа". Там у іх з прозай ёсць пэўныя праблемы. А як з прозай у ТВЛ?**

— Сёння нас найперш цікавіць проза. Мы пачалі шукаць новых "дзеючых асобаў". Сярод апошніх знаходак — Лявон Вашко. Сёлета за кнігу "Паэты-цары" ён атрымаў літаратурную прэмію ТВЛ "Гліняны Вялес". Імпрэза адбывалася на тле Барысавага камення, побач з Сафійскім саборам. Раней "інаўгурацыі" ладзіліся ў Мінску. Аднак "Вялес" гэтаму гораду непатрэбны. Далей вялесаванне будзе адбывацца толькі ў Полацку. У гэтым ёсць небяспека маргіналізаваць прэмію, "зачыніць" яе ў раённым маштабе. Аднак нешта мне падказвае, што адбудзецца адваротнае.

Параўн бы літаратуразнаўцам звярнуць увагу на драматургію Сідарука, артыкулы па транслагізму Мінскевіча і Туровіча, мае артыкулы па пострамантызму.

Апошнім часам тэвээлаўцы шмат напісалі прозы. Цяпер нават мы не ў стане ўсё самастойна надрукаваць. Нешта з'явіцца ў "Крыніцы", нешта — у "Нашай Ніве". "Распісаўся" Мудроў. Мне вельмі падабаецца проза Лявона Вольскага.

Да нашага празаічнага праекта будзем падключаць "легіянераў": Сяргей Астраўцоў, Вітаўт Чаропка, Уладзімір Лобач, Сяргей Шыдлоўскі. Перачытаў прозвішчы — зноў атрымліваецца Полацак, Горадня, Мінск.

**— Ну а цяпер колькі словаў пра "смерць" ТВЛ. Мяркуючы па тым, што вы папярэдне сказалі, ТВЛ не збіраецца паміраць, але і не зусім зразумела ці збіраецца яно жыць? Дакладней, не зусім зразумела як ТВЛ збіраецца жыць і дзейнічаць далей, у якіх формах, накірунках,і хто будзе складаць яго актыўнае ядро, калі многія з заснавальнікаў таварыства страцілі цікаўнасць да супольнай працы?**

— Нядаўна мы размаўлялі па тэлефоне з Алесем Кузьміным, лідэрам полацкага рок-гурта "Мясцовы час". Гурт толькі што прыехаў з мінскай акцыі-канцэрта "Вольныя танцы III". Музыка ў добрым настроі, пераказвае ўражанні: пачуццё такое, нібы вярнуўся ў лепшыя гады гурта, з'явілася жаданне працаваць. Да гэтага ў "Мясцовага часу" быў страшэнны крызіс — гурт амаль не граў 4 гады. Я таксама адчуваю нешта падобнае: ТВЛ знаходзіцца ў "маладзіковым стане". 1996—1997 гады былі для нас не з лепшых. (Парушылася раўнавага трохкутніка?) Мы пражылі іх за кошт напрацаванага раней. Я гэта выразна ўбачыў, калі займаўся кнігай "Гісторыя ТВЛ у люстэрку тагачаснага друку (1993—1998)", якая выйдзе сёлета з нагоды 5-годдзя таварыства. Праўда, самыя значныя публікацыі за мяжой, вандроўкі, стыпендыі прыпалі на гэтыя апошнія гады. Узышло пасеянае. Далей адбудзецца нешта іншае. Бо ранейшыя формы працы вычарпаліся. Акцыі будуць менш масавыя і мець больш інтэлектуальны, зместавы, эксперыментальны (неабавязкова мадэрнісцкі) характар. Большасць акцый, як і раней, пройдуць на Полаччыне. Хутка адбудзецца абнаўленне каманды. Пакуль я не хачу называць новыя прозвішчы. Яшчэ ідуць перамовы, ліставанне, абмеркаванне, кансультацыі. Новы курс ТВЛ патрабуе новага "рэсурсу". Магчыма, хтосьці сёлета выйдзе з СП.

**— Дарэчы, наколькі я памятаю, ТВЛ распачыналася з публічнай крытыкі Саюза беларускіх пісьменнікаў і нават стваралася ўражанне, што вы гатовыя ўзяць на сябе абавязак быць, калі можна так сказаць, "афіцыйнай" апазіцыяй Саюзу пісьменнікаў. З той пары прамінулі гады, але ці перамянілі яны нешта ў стаўленні ТВЛ, і вашым асабіста, да Саюза пісьменнікаў?**

— Ці змянілася маё стаўленне да СП? Калі разглядаць справу ў рэчышчы палітыкі, дык вельмі добра, што СП не раскалоўся, захаваў еднасць і нават прадэманстраваў нескаронасць. Трэба было захаваць нішу. Адміністрацыя прэзідэнта хутка бы "скалаціла" новы СП. Вядома, які. Аднак я не маю ніякіх ілюзій адносна "другога дыхання" саюза. У плане эстэтычных, культурніцкіх адкрыццяў ён не баяздольны. Памыляецца той, хто лічыць, маўляў, якая розніца дзе пісьменніку стаяць на ўліку. Пісьменнік стварае сябе толькі на 25 працэнтаў. На 50 працэнтаў яго лепіць кантэкст, у які ён патрапляе (як казюрка ў бурштын?). Такім чынам, можна ўскосна сабе дапамагчы, змяніўшы кантэкст. Але зноў паўстае пытанне прыватных выгод. Шкада, што ў свой час "Тутэйшыя" вырашылі легалізавацца. Скончылася гэта поўнай паразай. Ёсць міт "Тутэйшыя", няма культурніцкай з'явы пад гэтым назовам. Быць асобна ад большасці даволі цяжка. Нібыта ізгой па ўласным жаданні. (Астатнія разважаюць так: або ён задужа хітры (масон), або з іншай планеты (чужы). Не кожны вытрымае гэткае выпрабаванне. З ТВЛа ў СП перайшла Лера Сом. Прыйшла чутка пра заяву ў саюз Славаміра Адамовіча (не ведаю, ці праўда). Хаця Славамір яшчэ напрыканцы 1995 (пасля "Лепельскіх алітэрацый") сышоў ад нас "па ўласным жаданні". Быць у камандзе "Нашай Нівы" аказалася больш прэстыжна. Але, як вядома, вартае, сур'ёзнае — вымагае ахвяры. Магу запэўніць, што "ядро" ТВЛ застанецца пры сваіх "сепаратысцкіх" ідэях. Старэйшыя нашыя калегі трымаюць плацыну (такі ім выпаў лёс)), а мы (не толькі ТВЛ) мусім з гэтай іх дапамогі рабіць, рабіць і рабіць. На самай справе бэнэфаўскі лозунг "незалежнасць або смерць" састарэў для XXI стагоддзя. Роля дзяржавы ў новым свеце непазнавальна трансфармуецца. Інстытут дзяржаўнасці ў Еўропе (у ранейшым разуменні на вачах пачынае губляць абрысы. Ратунак наш у культурніцкай дзейнасці. Сітуацыя ўскладняецца тым, што Беларусь знаходзіцца "пад каўпаком" расійскіх электронных СМІ. Псіхалагічна беларус жыў і жыве ў Расіі, без інтэграцыйных намаганняў прэзідэнта. Сёння ў нашай краіне як ніколі павышаецца роля рэгіянальнай палітыкі, у тым ліку культурніцкай. Ва ўсім свеце самым папулярным з'яўляецца мясцовы тэле-радыёканал, менавіта па ім можна пачуць: што адбылося на роднай вуліцы, чаму арыштаваны кіраўнік вашай фірмы, як згуляла любімая каманда. Свет зноў пачынае жыць не краінамі, а тэрытарыяльнымі супольнасцямі.

**— Мэта нашай "юбілейнай" гутаркі — ТВЛ як цэлае. Але я не магу сабе адмовіць у жаданні запытацца "каардынатара таварыства" пра асабістае, а менавіта: хто вы, спадар Алесь, самі для сябе? Менеджэр культурніцкіх праектаў, культуролаг, журналіст, эсэіст, празаік, паэт?.. Ці ўсё гэта разам і яшчэ нешта, чаго староннім воку не бачна?**

— Гадоў пяць таму, калі б мяне спыталі, хто я?, адказаў бы не вагаючыся: паэт. Цяпер я не ведаю: хто я? Калі я паэт, дык цалкам не такі, як большасць беларускіх. Я канчаткова расчараваўся ў сілаба-танічным вершы. Дакладней, я востра адчуваю яго анахранізм. Тэарэтычна я магу пісаць так, як Скобла, Бадак, Акулін (адны з лепшых паэтаў майго пакалення). Як-ніяк маю дзесяцігадовую практыку і, спадзяюся, здольнасці.

*(Працяг на стар. 12)*

## МінШчына: старонкі даўніны

**Ці не кожны населены пункт мае багатую гісторыю, звязаную з яго заснаваннем. Іншая справа, што аб паходжанні толькі некаторых з іх можна сказаць нешта больш-менш пэўнае. Пра астатнія ж, у лепшым выпадку, захаваліся легенды і паданні. І тыя, што даўно запісаны, і тыя, якія пакуль перадаюцца з пакалення ў пакаленне, чакаючы зацікаўленага чалавека, гатовага занатаваць усё гэта на паперу.**

**А такім чалавекам і стаў А. Ненадавец, які вырашыў сабраць матэрыялы, што тычацца гісторыі розных населеных пунктаў ва ўсіх абласцях нашай краіны. Так была задумана серыя "Мой родны кут". Першынцам у ёй стала кніга "Брэстчына", што выйшла ў 1995 годзе. Выдавецтвам "Беларусь", якое ўзяло на свае "плечы" гэтую ношу, на той год было запланавана і яшчэ некалькі тамоў. Ды ведама, які цяпер час для выдання кніг, якія не прыносяць прыбытку! Тым не менш "Беларусь" ад сваёй задумкі не адмовілася. І вось у серыі "Мой родны кут" з'явілася другая кніга — "Міншчына ў легендах і паданнях". А значыць, пабольшае колькасць тых, хто яшчэ мацней палюбіць родную Бацькаўшчыну, лепш спазнае багатую нацыянальную гісторыю.**

## "Сола для гадзінніка з боем"



**На эксперыментальнай сцэне Беларускага дзяржаўнага драматычнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску адбылася прэм'ера спектакля "Сола для гадзінніка з боем". П'еса Освальда Заградніка знаёмая нашаму гледачу па нашумелым спектаклі на сцэне МХАТа са знакамітымі майстрамі Грыбавым, Андроўскай, Прудкіным, Яршовым, Станіцыным. Рэжысёр Валерый Маслюк заняў у сваім спектаклі народных артыстаў Беларусі Леаніда Трушко, Тадэвуша Кокштыса, заслужаных артыстаў Беларусі Алеся Лабанка, Людмілу Пісараву і Тамару Шашкіну.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Мастацтва — справа сямейная...



**Выставу работ сям'і Магучых — Валерыя, скульптара камбіната "Мастацтва", Галіны, кіраўніка гуртка ў сярэдняй школе N 40, і іх дзяцей-школьнікаў Лады і Іллі — змаглі паглядзець віцябляне. Ім былі прадстаўлены вырабы з саломкі, разьба па дрэве, малюнкі і жывапіс, графіка і пастэль.**

*На здымку: сям'я мастакоў Магучых з Віцебска.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ВІНШУЕМ!

# ...Зробім жа Богам ісціну

## Святлане Алексіевіч — 50



У Святланы Алексіевіч — шчаслівы пісьменніцкі лёс. Як чалавек, абраўшы выказнікам сваіх памкненняў слова, зброяй сваёй абраўшы слова, С. Алексіевіч сканцэнтравана ідзе адным шляхам. Яна, з усёй сілай гранічнай шчырасці, шукае ў чалавеку чалавечнасць, высвятляе адно галоўнае пытанне: а ці засталіся мы яшчэ заставацца людзьмі... Дык ці ў гэтым пісьменніцкае шчасце — вырашаць пытанне рэальнасці існавання?.. Пры гэтым атрымліваць усемагчымыя знакі ўдзячнасці з боку нязгодных, часам агрэсіўна нязгодных з выкладзенымі, адкрытымі пісьменніцай праўдамі. Так, праўдамі. І не таму, што іх некалькі ў дачыненні да адной ісціны. Праўдамі — таму, што літаратар, не забываючыся пра сілу мастацкага абагульнення, досыць прамалінейна разглядае чалавекаў-адзінак, вызначаючы дакладную праўду для кожнага з выпадкаў, для кожнай жыццёвай лініі асобна. Стылёвасць творчай манеры пісьменніцы акрэслівае канкрэтная праўда. І галоўнае ж аўтар дакументальна-спавядальнай прозы гаворыць, зыходзячы зусім не з агульнасці, а з лаканічнай і фактаграфічнай канкрэтнасці. Чытаем жа напрыканцы "Цынкавых хлопчыкаў": "Калі бачу, як апранаюць "афганскую форму, прышпільваюць медаль "Ад удзячнага афганскага народа" і ідуць да дзяцей у школу, — не разумею! Калі прымушаюць маці дзесяць-дваццаць разоў расказваць пра загінуўшага сына, і яна пасля ўсяго ледзь дабіраецца дадому, — не разумею". І далей: "У нас было шмат багоў, адны цяпер на сметніку, другія — у музеі. Зробім жа богам Ісціну, і будзем адказваць перад ёю кожны за сваё, а не так, як нас вучылі, — усім класам, усім курсам, усім калектывам"... Усім народам... Будзем міласэрныя да тых, хто заплаціў за прасвятленне ў галовах больш за нас. Памятаеце: "Я свайго таварыша... Я сваю праўду ў цэлафанавым мяшку з баявых нёс... Асобна галава... Асобна рукі, ногі... Садраная скура..."

У творчасці С. Алексіевіч ніколі не зліліся ў адзінае цэлае дакументальны зрэз часу, абвостраная рэчаіснасць і пісьменніцкае абагульненне разваг пра жыццё. І тут, як і павінна, відавочна, здарацца ў выпадку з сапраўднай, сур'ёзнай, ідучай след у след за жыццём літаратурай, межы кожнай з кніг — ці то гэта "У вайны не жаночае аблічча", ці то "Апошнія сведкі", альбо "Зачараваныя смерцю", "Цынкавыя хлопчыкі" — пашыраюцца да неверагодна шматабсяжных памераў. Да абсягаў, якія прымушаюць забыцца на тэму, якія штурхаюць да асэнсавання ўвогуле нашай прысутнасці ў свеце. Ці не таму да ўсіх кніг падыходзіць занатаванае на вокладцы "Цынкавых хлопчыкаў": "Я не суддзя таму, што ўбачыла і пачула. Я толькі хачу адлюстраваць свет чалавека такім, які ён ёсць. А сёння праўда пра вайну ўяўляецца шырэй, чым раней, як праўда пра жыццё і смерць наогул".

У прадмове да мінскага выдання "Цынкавых хлопчыкаў" (а кнігу гэтую, між іншым, як і наступную — "Зачараваныя смерцю" — пераклаў на беларускую мову Мікола Гіль) Алесь Адамовіч расказаў пра тое, як яму давялося быць сведкам цкавання праўды, выкладзенай беларускімі кнігадакументалістамі ў фільме "Боль": "Рэагавалі "афганцы" ў зале дысцыплінавана. Выступалі як на паліт-занятках. Толькі раз ці два прарвалася асабістае. Такое ўражанне, быццам на розных войнах пабывалі: тыя, на экране, і гэтыя ў зале. Падалося, усё скажае прысутнасць у зале вайсковага начальніка. Але не ўсё так проста. Пераканаўся ў гэтым, прачытаўшы "Цынкавых хлопчыкаў" С. Алексіевіч. Вось і яшчэ адну кнігу "галасоў", дакументальных расказаў... сабрала беларуская пісьменніца, на гэты раз пра афганскую вайну — і зноў вакол яе работы заўзята спрачаюцца. Маскоўская "Красная звезда" і мінскі "Политический собеседник" не дачакаліся нават скарочанага варыянта ў "Дружбе народов", а па газетных публікацыях усё зразумелі і адразу ўзяліся за аўтара і зусім па-генеральску..." Сапраўды, асабліва публікацыя "Цынкавых хлопчыкаў" узвяла маральных цемрашалаў у стан агрэсіі, скіраванай на С. Алексіевіч, але таксама ўсчатай дзеля прыкрыцця шлюзаў праўды. Генералы і радавыя з генеральскім светабачаннем у чым толькі, у якіх толькі грахах не абвінавачвалі аўтара "Цынкавых хлопчыкаў". Эстэтычная слепата, падмена рэальнага ружовымі марамі, блакітнымі фантазіямі людзей, здавалася б, моцных, прыстасаваных да выпрабаванняў зрабілі ачмурэлымі, замшэлымі кансерватарамі ў горшым сэнсе гэтага вызначэння.

Якую кнігу С. Алексіевіч ні вазьмі — паўсюдна пісьменніца, абастраючы рэчаіснасць, па самым вялікім рахунку лічыцца з чалавечай чуйнасцю, са здольнасцю перажываць, паважаць душою, сэрцам. Часам здаецца, што пісьменніца мэтанакіравана вядзе разбор прызначэння тых альбо іншых мазгавых, генетычных клетак чалавека. Але пры ўсім пры гэтым робіць свой рашучы, праніклівы націск, сваё пранікненне ў сутнасць чалавечай натуры, чалавечага характару паважліва, разумна. І людзі са сваімі споведзямі паўстаюць прыгожыя, адкрытыя, уласна кажучы, самі паўстаюць як шукальнікі Ісціны. Той, што неабходна ў аднолькавай ступені і чалавеку, адзінцы, і чалавецтву ўвогуле.

У "Зачараваных смерцю" (я і зараз, перачытваючы кнігу, не магу пагадзіцца, што яна толькі пра самазабойцаў). "Зачараваныя смерцю" — кніга пра нас з вамі) у

ЧАСОПІСЫ

# Чытайце зранку... "Пане Каханку"

А ўрэшце, можна і вечарам, і днём, можна ахвяраваць нават гадзіну-другую ночы. І, паверце, не пашкадуеце, бо сустрэча з аповесцю Юзафа Ігнацы Крашэўскага "Апошнія хвіліны князя Ваяводы (Пане Каханку)", а гаворка ідзе менавіта пра гэты твор, заслугоўвае таго, каб адкласці ўбок, здавалася б, самыя неадкладныя справы. Каб гэтая сустрэча з выдатнай аповесцю вядомага польскага пісьменніка адбылася, паруліўся часопіс "Крыніца", змясціўшы яе ў трэцім нумары. Хоць, правільней, спачатку паруліўся Васіль Сёмуха, які пераклаў яе. "Крыніца" змагла надрукаваць аповесць у скарочаным варыянце. Але затое дапоўніла публікацыю разгорнутым жыццяпісам жыцця і творчасці Ю. І. Крашэўскага, у якім вылучаны асноўныя падзеі біяграфіі творцы, у тым ліку і "Беларускі перыяд..." Падрыхтавала матэрыял Святлана Малюковіч. Яна ж выступае і з артыкулам "Жыву маім часам..." (папярэднічае яму яшчэ адзін, без аўтарскага подпісу — "Хоць Радзівіл, але я чалавек і грэшны..." ("Радзівілаўская трылогія" Ю. І. Крашэўскага)". Абодва артыкулы ўтрымліваюць шмат звестак пра таго, хто, па завядзёнцы, "належыць" Польшчы, а павінен... Ды пра гэта — у заключным абзацы артыкула С. Малюковіч: "Чым далей бег часу адносіць ад нас Крашэўскага, тым больш узвышаецца яго постаць на фоне гісторыі польскай літаратуры", — сказаў знаўца творчасці пісьменніка К. В. Завадзінскі. Сказаў змястоўна і лаканічна. Лепш не скажаш... Дык чаму ж узнікае нейкая незадаволенасць у цытуючага гэтыя радкі?! Можа, і ў чытача таксама... Тады паспрабуем удакладніць паважанага крытыка: "Чым далей бег часу адносіць ад нас Крашэўскага, тым больш узвышаецца яго постаць на фоне гісторыі польскай і беларускай літаратур". Не выключана, што з "бегам часу" гэтае ўдакладненне набудзе рэальныя падставы..." Хіба застаецца дадаць, што і пасля гэтых публікацый, якія робяць для чытача "невядомага" Крашэўскага вядомым. А яшчэ напярэдадзе выданне твораў Крашэўскага ў серыі "Беларускі кнігазбор", так што паступова справядлівасць пераможа.

І ўсё ж сапраўдны герой гэтага нумара "Крыніцы" — наш, лімаўскі, супрацоўнік Віктар Шніп. Менавіта ён стаў чарговай "постацю" часопіса. Матэрыялы пра яго прадстаўлены ў раздзеле "Ты". Па-першае, з "Віктарам Шніпам гутарыць Леанід Галубовіч". І абодва, мабыць, адчуўшы свабоду і задавальненне ад таго, што могуць, нарэшце, выказаць (публічна!) тое, што недагаварылі падчас сустрэч у лімаўскіх калідорах і кабінетах, адкрываюць душы насцеж...

Ва ўсякім разе, тут ёсць на чым запыніць увагу. І на падборцы новых твораў В. Шніпа — таксама. І на яго "зацемках" кшталту Галубовічавых, хоць, па праўдзе кажучы, я ўжо заблытаўся, хто з іх і з якой кішэні "зацемкі" бярэ.

І, ведама ж, не лішне прыслухацца да разваг калег В. Шніпа па творчасці: "Тры іпастасі паэта" Алеся Бельскага, "Штрыхі да асацыятыўнага партрэта Віктара Шніпа" Алеся Пісьмянкова, "Шляхам дабрыні і шчы-

самым канцы — "Замест эпілога" пісьменніца нагадвае пра завяршэнне жыццёвага шляху адным з абаронцаў Брэсцкай крэпасці... "Калі б тады, у вайну, памёр ад ран, я б ведаў —загінуў за Радзіму. А вось цяпер — ад сабачага жыцця. Калі гэта і напішуць на магіле... Не лічыце мяне вар'ятам..." Радкі з пасмяротнага ліста абаронцы Брэсцкай крэпасці Цімерана Зінатава. Прыехаўшы ў горад сваёй ваеннай маладосці, чалавек, які тады, у 1941-ым, на адной са сцен цытадэлі надрапаў штыком "Паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма! 22/VII-41 года", кінуўся пад цягнік. Чаго не хапала ветэрану? Увагі Радзіму? Нашай з вамі павагі? Любові блізкіх, навакольных людзей?.. Пісьменніца шукае адказу, спрабуе разабрацца, навошта нам такое дадзена — жыць, прыходзіць на белы свет, сумнявацца... Навошта нам дадзена быць жорсткімі, непахіснымі? Навошта нам дадзена не вытрымліваць выпрабаванняў?

Літаратура (а хутчэй — мастацкае, філасофскае асэнсаванне часу), якую стварае, запісвае, нясе нам С. Алексіевіч, ужо прызнаная, адзначаная, ацэненая светам. Адна з формул гэтай ацэнкі — выданне кніг нашай суайчынніцы на самых розных мовах. Да таго ж — выданне кніг-споведзяў вялікімі накладамі, калі лік тысяч экземпляраў ідзе на дзесяткі. Ды і яшчэ за савецкім часам "У войны не женское лицо. Последние свидетели" (Масква, "Советский писатель", 1989) — сто тысяч, "Цинковые мальчики" (Масква, "Известия", 1991) — таксама сто тысяч экземпляраў. Поруч з тыражамі — прэстыжныя літаратурныя прэміі, пра якія часам на Беларусі сродкі масавай інфармацыі сарамліва маўчаць. Мусіць, па прычыне традыцыйнага ўзважвання-параўноўвання нашай і чужой узнагарод. Маўляў, што нам Нобелеўская ды іншыя адзнакі, вось прэмія айчынных прафсаюзаў — гэта іншая справа. Бог з імі, з меркаваннямі пра прэміі, ды і з самімі прэміямі таксама. Яны хутчэй — як адзнакі сталасці, як вызначэнне месца беларускай пісьменніцы з яе вопытам і асэнсаваннем жыцця сярод тае літаратуры, таго мастацтва, што існуе, працягвае стварацца ў свеце. Якое ўсё ж такі, як бы і што ні думалі айчынныя крытыкі і прапагандысты, сапраўды бязмежнае і шмат прасторавае. На крайні выпадак — шматкратна вальнейшае ў адрозненне ад большасці напісанага і як быццам створанага толькі т у т. С. Алексіевіч патрэбна ўсяму свету. Свету цывілізаваных, здольных зразумець, што такое гуманізм, людзей. Патрэбна са сваім жанрам, які ад кнігі да кнігі шліфуе, узбагачае, акрэслівае ўсё болей выразна і асветлена. Назва жанру фактычна і сёння яшчэ не акрэслена. Пісаў жа А. Адамовіч мо дзесяць ці болей гадоў назад: "Але як жа ўсё ж такі вызначыць гэты жанр? Як яго назваць? Адзін з ленінградцаў пры абмеркаванні "Блакаднай кініг" падзяліўся такім вось назіраннем: глядзіце, маўляў, у першай кнізе як быццам хор галасоў, харавы пачатак, а пасля (у другой) з яго выступілі, узбуйняючыся, трое, тры лёсы, тры галасы, і павялі расповед...

Можа быць, сапраўды вяртанне да родахаравага пачатку? На новым, гэтак сказаць, вітку? Некалі, у антычныя часы, гэта было нормай. Пасля асоба, індывідуальнасць стала жанраўтваральным пачаткам — узнік сучасны раман. І вось наш век з яго глабальнымі праблемамі, трывогамі, небяспекамі ізноў паклікаў да родавага пачатку, да харавага.

І яшчэ такая заўвага: у падобных кнігах вельмі важны прынцып — самадаследаванне. Хатыні, даследуючыя сябе самі (праз памяць, галасы ахвяр), блакада, якая гаворыць сама за сябе, вёска, якая пайшла ў горад і зараз азіраецца назад, жанчыны-франтавічкі, якія здзіўлена пытаюцца ў сябе і другіх: "Няўжо гэта я, мы гэта былі там, тады?.." Шматгалосае самадаследаванне жыцця, калі аб'ект і суб'ект апавядання як два люстэркі, што адно ў другім адбіваюцца, паўтараючыся шматкратна...

Дык як жа вызначыць, назваць гэты жанр?
Жыццё, якое распавядае пра сябе?
Эпічна-харавая проза?
А можа, нават раман-араторыя?
Ці: саборны раман?
Дакументальнае самадаследаванне?
Вусная гісторыя?
Магнітафонная літаратура?..

Калі гэтулькі варыянтаў, значыць, усё яшчэ не праяснілася, не ўзнікла, не знойдзена слова. А можа быць, і не варта падштурхоўваць, спяшыць? Няхай жанр яшчэ папрацуе, наробіць болей, прыгледзіцца да самога сябе. А там і знойдзецца хто-небудзь, ахрысціць. Было б немаўлятка жывым-здаровым".

Назву жанру вызначаць, знойдуць. Мажліва, гэта здарыцца ўсё ж тады, калі пісьменніцкую з'яву, імя якой С. Алексіевіч, сапраўды пачнуць асэнсоўваць крытыкі і літаратуразнаўцы. І будуць рабіць гэтую работу з не меншай увагай, чым выяўляюць яе ў дачыненні да аўтараў шматтомных, шматпрацяжных эпапей. Хаця Святлана Алексіевіч працуе, існуе незалежна ад гэтага. І ў гэтым, відаць, таксама — яе пісьменніцкае шчасце.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Твар Чарнобыля

Святлане Алексіевіч

*Смяротных дзён, начэй і ранняў*
*Байцам ніколі не забыць.*
*Я не хацеў бы параўнанняў*
*Вайны з Чарнобылем рабіць.*

*Але хто можа даць нам рады,*
*Каб разарваць бяды ярмо?*
*Паведаць пра яго ўсю праўду*
*Жыццё падказвае само.*

*Пранёс ён вогненныя ночы*
*Ад стараны да стараны.*
*Ў яго такі ж твар не жаночы,*
*Які і ў нашай быў вайны.*

*Сябе мы часта суцяшаем,*
*Што цішыню паслаў нам лёс.*
*Але ж Чарнобыль перад маем*
*Не менш вайны нам бед прынёс.*

*О, як падобныя іх з'явы*
*Азмрочвалі прастор вясны!*
*Абодва раптам без аб'явы*
*Свет устрывожвалі яны.*

*Палохалі й старых знянацку,*
*І тых, што сталі пад вянец.*
*Ніхто не ведаў ні пачатку,*
*Ні дня, які б прынёс канец...*

*Вось толькі розныя прысуды*
*Што ім гісторыя дае:*
*У час вайны вядомы ўсюды*
*Былі падпальшчыкі яе.*

*Злачынцаў той вайны адразу*
*Спасціг усіх смяротны лёс.*
*А за Чарнобыль жа адказу*
*Ніхто дагэтуль не панёс...*

расці" Алеся Бадака, "PRO" і "CONTRA" не-моднай паэзіі" Ірыны Шаўляковай, "Дня паэзіі — летапісец" Алеся Пашкевіча, "Беларуская душа" Алены Яскевіч, "Пустоты паэта" Леаніда Галубовіча... Праўда, мудрэй за ўсіх зрабіў Сяргей Вераціла і пра сябе самога не забыўшыся — яго матэрыял гэтак і называецца: "Пра мяне і Шніпа".

Зінаіда Дудзюк, атрымаўшы мажлівасць прадоўжыць рубрыку "Я маю твор...", зрабіла гэта так:

***ПАРАДА***
***Каб знішчыць калючку,***
***не тузайце за голле і кветкі***
***падкапвайцеся пад корань.***
***Ён нічым не абаронены.***

Як кажуць, нешта ёсць... Ва ўсякім разе, не горш, чым у творах іншых аўтараў згаданай рубрыкі. Для прыкладу, Лера Сом, якая ў гэтым жа нумары выступае з сексцінай "Снежань".

А Людміла Паўлікава-Хейдарава прадстаўлена нізкай "Мелодыя любові". Але гэта не столькі каханне лірычнай гераіні, колькі спасціжэнне любові ў яе шырокім разуменні — да ўсяго, што ў нас і вакол нас. Гэта яшчэ і трывожны роздум, у тым ліку і праз традыцыйнае спасціжэнне сутнасці мастака і мастацтва (у дадзеным выпадку — паэта і паэзіі), яго месцы на зямлі:

***Паэт — ігрок... Смялей, чытач,***
***на коне — блеф, што ты гартаеш.***
***Прабач за шчырасць — не святая.***
***Прабач за зман. Яшчэ прабач,***
***што сею смутак і трывогу.***
***Той адпявае — хто пяе.***
***Калі ж паэзія — ад Бога,***
***зямныя — словы ўсе яе:***
***як гандляры на кірмашы —***
***ухваляць тое, што не маюць.***
***А скажаш: ісціна — нямая, —***
***і страшна робіцца душы.***

Уражанне ад нумара будзе не поўным, калі не згадаць апавяданне Аляксандра Станюты "Порт-Элізабэт" з цыкла "Трафейнае кіно", фрагменты з кнігі Аляксандра Лукашука "Перад свабодай" — "Кенгуру" і "Канцэрт для прэзідэнта". І, канечне ж, асаблівай увагі варта прадстаўленне Уладзімірам Арловым яшчэ аднаго з тых, хто не па сваёй волі апынуўся за межамі Радзімы, перажыўшы цяжкае ваеннае ліхалецце. Гэтым разам — знаёмства з Мікалаем Лапіцкім, які ў ЗША выдаваў часопіс "Царкоўны Сьветач" і, як сведчыць У. Арлоў, "на працягу некалькіх гадоў у дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі а. Мікалай чытаў у Кангрэсе ЗША прысвечаную гэтай падзеі малітву". Тут жа артыкул М. Лапіцкага "Юрыдычнае палажэнне праваслаўных у Вялікім княстве Літоўскім з часоў Ягайлы".

**Антось НЕСЦЯРУК**

УРАЖАННЕ

# Пра дзень сённяшні

"А дзень наш, мінулы і сённяшні, як быў безаблічны, без твару, такім і застаецца", — пісаў у "ЛіМе" Віктар Казько з нагоды адной кнігі — і меў рацыю. Асабліва ў дачыненні да дня **сённяшняга**. Адны газеты ўсё ў захліп хваляць, другія — ганяць і топчуць нагамі. А ісціна, якая часта ў такіх выпадках бывае пасярод, просіць позірку прамога і пільнага, не скажонага і "не скошанага" палітычнай кан'юнктурай. Гэта значыць — позірку **мастацкага**, які б усе дэталі, мазкі, рыскі сканцэнтраваў у адну панарамную шматколерную карціну — карціну дня, у які нам выпала жыць. На жаль, усе мы, так званыя майстры пяра, пагляды свае скіроўваем хто куды: хто ва ўласную душу на прадмет нястомнага даследавання-самакорпання, хто на даўно апетыя краявіды і поры года, хто на сацыяльны пласт рэчаіснасці (цэны, рынак, страта каштоўнасцей). І толькі нямногія здольны акінуць вокам агульную панараму, вылучыць адметнае, асэнсаваць тыповае, заглыбіцца ў сутнасць.

***Які ганебны пераход***
***Ад велічы і чыннасці***
***Да чорнай роспачы згрызот,***
***Да нэндзы і нішчымнасці.***

*("Звязда", 1991)*

Гэты "дыягназ" пераходнага перыяду належыць паэту магутнага грамадзянскага тэмпераменту Нілу Гілевічу. "Пераход" немаведама ў што зацягнуўся на добры дзесятак гадоў. Хвароба загнана ўнутр, як нявылежаны грып. Пачалося ўскладненне. Але паколькі наш дзяржаўны "мінздраў" прывык атрымліваць дазвол на прызнанне факта эпідэміі з Белакаменнай, а там галовы баляць з-за ўласных болек, то мы па-ранейшаму хварэем "на нагах", без лістка непрацаздольнасці. Такая вось нечаканая разгарнулася метафара, з медыцынскім ухілам...

Н. Гілевіч, заўважым, ніколі не рабіў з метафары нейкага бажка, ён сыходзіць з сутнасці з'явы. Яго сённяшняя пазіцыя — пазіцыя гранічнага непрымання таго духоўнага дна, куды то плаўна, то рыўкамі апускаецца карабель пад назваю "Рэспубліка Беларусь". Паэту даводзіцца браць на сябе няўдзячную працу "падмятання" (балазе, астатнія застануцца чысценькімі і лаяльнымі):

***Выходзьце рана ў двор,***
***Змятайце бруд і смецце —***
***І стане бачна ўсім,***
***Як прыгажэе ў свеце!***

*("Народная воля" за 25 сакавіка г.г.)*

Паэт, забываючы, што "моцныя словы не бываюць моцнымі аргументамі", літаральна крыкам крычыць, бачачы, як залівае бруднай вадой нешматлікія астраўкі беларушчыны.

***Панове начальнікі? Дзе я***
***Праз вашую ласку жыву? —***

пытаецца ён у вершы з красамоўнай назвай "Крык выгнанніка на Радзіме". Той, хто адчувае сябе выгнаннікам, ізгоем на роднай зямлі, мае поўнае права забыцца на дыпламатыю. Бо дзе моцная любоў, там і нянавісць бывае нядробнай:

***Але каб так, даруйце, аскацінець,***
***Што ў роднай маці здольны***
***сэрца выняць***
***І ў гразь шпурнуць — такой жуды, бадай,***
***Яшчэ не ведаў беларускі край.***

*("З жыццёвай прозы")*

Грамадзянскі пафас перарастае ў з'едлівую сатыру, калі аўтар даследуе, "Як хто здзекуецца з добрых, бяспраўных, безабаронных людзей" альбо раіць калегам пісаць дзённікі: "З бясстрашнай фігай у кішэні" кляймiць прайдзісветаў ("ЛіМ" за 3.04 г.г.).

Праўда, ёсць момант, які выклікае нязгоду. У лімаўскай красавіцкай нізцы паэта адчуваецца песімізм, нявер'е ў перамены — тое, што называюць грэхам паныласці. Мужнасць патрабуецца і для таго, каб не паддацца такім настроям. Калі ў цемры гарыць хоць адна свечачка, то ноч перастае быць усясільнай...

Спектр нашых адносінаў да рэчаіснасці, як вядома, шырокі — ад такога вось балеснага крыку да поўнай абыякавасці і ўцёкаў у прыватнае. Сярод тых, хто рэагуе больш стрымана, але цвёрда прытрымліваецца дэмакратычных і гуманістычных прынцыпаў, яшчэ адзін прадстаўнік таго ж пакалення — Анатоль Вярцінскі. Парадавала ягоная паэтычная нізка ў снежаньскім нумары "Полымя". Стыль і манера ўсё тыя ж — сцісла, з паўторамі, з парнымі рыфмамі, але і новае з'явілася. Успамінаецца адна даўняя наша гаворка. Кажу яму (дзеўчынёхай яшчэ была, а ўжо "з заявачкамі"): "Музыкі ў вашых вершах мала". "Музыкі? — засмяяўся паблажліва, лёгка. — Паспець бы што сказаць, тут не да музыкі..."

***Чую: пяюць усё тыя ж катрынкі,***
***што мы — народ без Божай іскрынкі.***

Вось вам і музыка, калі ласка! І мілагучнасць,і вытанчанасць. А перадусім — сэнсавая насычанасць, выверанасць слова, дакладнасць думкі.

***Лаяльнымі быць стараліся?***
***Скараліся... і ўціраліся.***
***Плявок. Удар. Плявок.***
***Крыві ўласнай глыток...***

*("Уціраемся?")*

Што яшчэ засталося нязменным і вельмі аўтарскім — як загадны лад у Гілевіча, — дык гэта пытальныя інтанацыі. Пытанні ў вершах не столькі рытарычныя, колькі іранічныя.

***А потым? Песня старая ўсё?***
***Уцерліся і ўціраемся?***

Альбо:

***Які ж гэта дом, калі на куце,***
***выпнуўшы нахабна грудзі,***
***госць сядзіць гаспадаром.***
***Ці ж гэта дом?***

Гаворачы пра рэчы, безумоўна, балючыя для яго, А. Вярцінскі, тым не менш, не фарсіруе голасу, застаецца разважлівым, умудраецца нават захоўваць уласцівую яму мяккасць інтанацыі. У іншых публіцыстаў гэта выглядае наступным чынам: "Я кажу — так, значыць, так і не інакш!" Вярцінскі не настойвае на сваім, не цісне, і яго праўда мо якраз таму выглядае больш пераканаўчай. Асноўнае правіла педагогікі — не прамаўляй ісціну, лаючыся — тут спрацоўвае на ўсе сто.

Асобна хацелася б спыніцца на вершы "Параўнанні", у якім аўтар на хаду, з зайздроснай нязмушанасцю пераходзіць ад верша традыцыйнага да вольнага. Перад намі разгортваецца некалькі малюнкаў. Першы: прывакзальная плошча з яе броўнаўскім рухам, дзе кожны бяжыць на свой цягнік і шукае сваю платформу. Другі: разнастайныя гадзіннікі ў майстэрні, і кожны паказвае свой час. Трэці (самы каларытны): ля Старажоўкі б'юцца цыганы. Не столькі б'юцца, колькі тузаюцца, штурхаюцца.

***Калі самае малое цыганя***
***падбегла да старэйшага, тоўстага***
***і таўханула яго ў жывот,***
***то бойка на гэтым і скончылася.***

Цыганская разнавіднасць вайны "усіх супроць усіх"...

Чацвёрты малюнак — сон, а ў тым сне — спуджаны нечым крыкам натоўп, які пачынае "ўсім гуртам бегаць, мітусіцца, кідацца ўбакі". У кожнай з гэтых падгледжаных карцінак пазнаем наш беларускі дом, дакладней — хату, "што шыбінай слепаватай на свет глядзіць вінавата". Гэта наша "пераходная" рэчаіснасць, наша неўраўнаважанае жыццё, нашы хворыя амбіцыі, нашы бесталковыя грамадскія стасункі. Не вельмі прыдатны матэрыял для паэтычнага адлюстравання. Тым каштоўней — здабыткі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# "Арэхавы спас" дайшоў і да Варапаева

Адзін з самых вядомых населеных пунктаў на Пастаўшчыне — мястэчка Варапаева. Нават кніга асобная выдадзена пра гэты прыгожы куточак зямлі беларускай.

А зусім нядаўна сціплую старонку ў гісторыю Варапаева ўпісаў і пісьменнік Міхась Зарэмба. Некалі, мо з чвэрць стагоддзя назад, ён прыязджаў сюды — у Варапаеўскую дзесяцігодку — карэспандэнтам газеты "Піянер Беларусі" (сёння — "Раніца"). А цяпер вось, напрыканцы навучальнага года, вучні і настаўнікі Варапаеўскай сярэдняй школы Пастаўскага раёна наладзілі прэзентацыю кнігі М. Зарэмбы "Арэхавы спас". Пачуў пісьменнік не толькі цёплыя словы пра кнігу, увогуле пра беларускую дзіцячую літаратуру, але і шмат пытанняў. Калектыў вучняў, настаўнікаў беларускамоўнай школы, на чале якой — дырэктар, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Алег Лявонцьевіч Лапушынскі, досыць падрыхтаваныя, дасведчаныя.

А пасля доўгай і зацікаўленай гаворкі дзеці бралі ў пісьменніка аўтографы. Якраз і спрыянне таму было аказана добрае — яшчэ перад сустрэчай кожнаму, хто пажадае, можна было набыць гэтую кнігу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Са шчодрай нівы

З лепшымі творамі тых, хто прыйшоў у літаратуру прыкладна ў сярэдзіне 50-х гадоў можна пазнаёміцца ў аднатомніку "Споведзь калосся", складзеным А. Бельскім і У. Дзіско (прадмова А. Бельскага) і выпушчаным выдавецтвам "Беларусь" у серыі "Школьная бібліятэка". Падзагаловак кнігі "Беларуская паэзія другой паловы XX ст." цалкам адпавядае яе зместу. Змешчаны творы Р. Барадуліна, Д. Бічэль-Загнетавай, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, С. Гаўрусёва, Н. Гілевіча, А. Грачанікава, В. Зуёнка, У. Караткевіча, Г. Кляўко, А. Лойкі, Е. Лось, П. Макаля, У. Нядзведскага, Ю. Свіркі, Я. Сіпакова, А. Ставера, М. Стральцова, К. Цвіркі.

## "Бярозаўшчына — наша бацькаўшчына"

Яшчэ адна прыемная вестка з перыферыі. Дзякуючы аддзелу культуры Бярозаўскага райвыканкама, у Брэсце пабачыў свет калектыўны зборнік "Бярозаўшчына — наша бацькаўшчына". Гэтае выданне — з шэрагу той краязнаўчай літаратуры, што асабліва неабходна сёння. Тым больш, што ў кнізе закранаюцца розныя пласты нацыянальнай даўніны, прапушчаныя, калі так мовіць, праз прызму Бярозаўшчыны. І хоць кніга невялікая памерам, але вельмі змястоўная. А да ўсяго і тыраж прыстойны — 20 тысяч экземпляраў.

## "Бабчын" — па-руску

Кніга Міколы Мятліцкага "Бабчын", якая пазалетась выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", гэтым жа выдавецтвам выпушчана і ў перакладзе на рускую мову, зробленым А. і М. Стрыгалёвымі. Праўда, хоць назва зборніка ідэнтычная беларускамоўнаму, у яго ўключаны і асобныя творы з кнігі М. Мятліцкага "Чаканне сонца", што пабачыла свет у 1994 годзе. Адным словам, перад намі "кніга жыцця" паслячарнобыльскага і самога аўтара, і ягоных землякоў, а таксама ўсёй Беларусі. Свайго роду эпіграфам успрымаюцца радкі паэта, пададзеныя ў арыгінале, факсімільна:

*Кут мой забыты, безабаронна*
*Зорыш пагаслых крыніц вачыма.*
*Некаму ты — ачужэлая зона,*
*Сэрцу майму ты да скону — радзіма.*

## Помніць словы — радзіма, народ, мова

На вокладцы чацвёртага нумара часопіса "Беларусь" — постаць паэта і барда Э. Акуліна і яго прызнанне: "Помню гэтыя словы — Радзіма, народ, мова". У нумары — гутарка з Э. Акуліным У. Панады "Важна не замаўчаць..." і некалькі вершаў паэта.

Пра важнасць духоўных каштоўнасцяў у сённяшнім жыцці (зрэшты, як і заўсёды) разважае ў гаворцы з В. Шымановіч Мітрапаліт Філарэт ("Любіць чалавека — гэта заўсёды подзвіг...").

Пад рубрыкай "Блізкасць душаў" публікуецца нататка В. Брылон "Наш Акуджава" і шэраг выказванняў пра яго — В. Быкава, Л. Баршчэўскага, Г. Бураўкіна, У. Някляева, Р. Барадуліна, Л. Дранько-Майсюка і іншых. Друкуецца заканчэнне матэрыялу А. Гібка-Гібкоўскага "І даруй нам даўгі нашыя.., або Камандзіроўка на радзіму", нататкі пра сучасную беларускую літаратурную ніву М. Тычыны "Белае поле, чорнае насенне...", слова П. Васілеўскага пра мастака А. Смаляка "Сам намалюй сваё сонца", падарожны нарыс І. Ждановіча і В. Шымановіч "Да Кіева. Праз Чарнобыль...", гісторыка-краязнаўчы нарыс І. Масляніцынай і М. Багадзяжа "Уладзімір Полацкі — казка ці праўда?", рэцэнзія на "Выбраныя творы В. Ластоўскага — "Ідэя адна — Беларусь", падпісаная крыптанімам Я. С., вершы М. Мятліцкага, згадкі М. Гроднева пра свой радавод "Сібірская радня", жыццёвыя замалёўкі Т. Булатавай "Сустрэчы на дарогах"...

ПАЭЗІЯ

Анатоль ВЯРЦІНСКІ



## Калі гвалтуюць айчыну...

Грудзьмі тулюсь к ёй,
як да матчыных грудзей.
І калі здзекваецца
нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай
здзекваецца ён маёй,
Калі ж над ёй —
мяне тым крыўдзіць найцяжэй.
**Янка Купала**

О, Русь моя! Жена моя!..
**Аляксандр Блок**

*Так, кожны гвалт — злачынны.*
*Справа рук сатаны.*
*Але гвалт над Айчынай —*
*гвалт двайны, трайны.*
*Калі гвалтуюць Айчыну —*
*гвалтуюць тваю жанчыну,*
*гвалтуюць маці тваю,*
*гвалтуюць тваю радню,*
*гвалтуюць цябе самога,*
*кроўны пачатак твой,*
*існасць тваю, твайго Бога*
*(тут сходзяцца Бог з сатаной).*
*І з гэтым гвалтам мірыцца —*
*сябе самога забыць,*
*найбольшаму злу скарыцца,*
*найгоршым адступнікам быць.*
*Калі гвалтуюць Айчыну —*
*мужчына будзь мужчынам,*
*не ратаваць ідзі,*
*не заслані грудзьмі.*
*Няма вышэйшага чыну —*
*няма і не было, —*
*чым бараніць Айчыну,*
*калі ёй робяць зло.*

## Здарэнне з беларускім часам

*Прымроілася мне ў сне*
*(мозг сонны на што ні здольны),*
*што сталі гадзіннікі ўсе —*
*наручны, насценны, настольны...*
*Спыніўся, бачу, і той,*
*што — на галоўнай вежы,*
*што з музыкай залатой*
*біць пачынаў першы.*
*Не ідуць,*
*не звоняць,*
*не б'юць...*
*Трывожуся: "Колькі ж часу?"*
*Яны не даюць адказу, —*
*не звоняць,*
*не б'юць,*
*не ідуць.*
*Замерлі ўсе як адзін,*
*І я ўсклікаю спрасоння:*
*"Дык колькі ж усё-ткі гадзін?*
*Якая дата сёння?*
*Год які на дварэ?*
*Ці новы ўжо, ці стары?*
*Пара надыходзіць якая?*
*Што нас заўтра чакае?.."*
*І чуецца мне адказ —*
*насмешлівая інтанацыя:*
*"Сказаць, што чакае вас? —*
*Інтэграцыя... Інтэграцыя..."*

## Як быць з НАТА?

"Мы катэгарычна супраць расшырэння НАТА на Усход і заклікаем нашых грамадзян ва ўсіх гарадах і вёсках, у працоўных калектывах ствараць камітэты падтрымкі дэпутацкага аб'яднання "Анты-НАТА"... Наша рэспубліка ператвараецца ў суцэльную антынатаўскую рэспубліку..."
*З заявы дэпутацкага аб'яднання "Анты-НАТА" палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ.*

*Пытаюся ў дзядзькі Ігната,*
*як ставіцца ён да НАТА.*
*Ён хмыкнуў хітравата.*
*І чую я ў адказ*
*хрыплы дзядзькаў бас:*
*"Чаго ўжо таго Хаўеры*
*баяцца, як халеры!*
*Не рабі ліхога*
*і не бойся нікога.*
*Так вось мяркую я,*
*і я, і баба мая".*
*Тут адчынілася хата*
*і выйшла цётка Агата.*
*Кажа: "Вы ўсё пра НАТА?*
*Далося ў знакі яно.*
*А мне дык усёадно.*
*На мой жа розум жаночы,*
*дык хай жыве, хто з кім хоча,*
*хто да каго ахвочы..."*
*Ігнат ускрыкнуў ажно:*
*"Ну, хопіць, Агата, досць!*
*Разыйшлася ты надта!*
*Што падумае госць?*
*Няма на вас, баб, НАТА!.."*

З ЦЫКЛА "НОВЫЯ РЫФМЫ"

## Мы і Еўропа

*Шмат пра нас ведаюць у Брусэлі.*
*Не ведаюць толькі, як мы абруселі.*

●

*Чым нам паможа суд у Гаазе,*
*калі мы звыкліся жыць у зняваве?*
*Цяжка вылазіць у князі з гразі.*

●

*Завуць у Еўропу Страсбург і Вена.*
*А ў нас свая бульба, сваё сена.*

●

*Маем да бульбы гуркоў ды кропу.*
*І не цягніце вы нас у Еўропу!*
*І не збівайце вы нас з тропу!..*

●

*Дыскутуюць сягоння ў свеце,*
*дзе націск ставіць — яўро ці еўра.*
*А нам з таго што?*
*А нам што "свеціць"?*
*Нам з нашым рублём "свеціць" зеўра.*

## "МММ" па-беларуску

*Бог з ёй, з пірамідаю Маўродзі.*
*Ёсць нешта горшае ў нашым народзе.*
*Вялікія вельмі мы арыгіналы —*
*манкурты,*
*мутанты,*
*маргіналы.*
*Пазбавіў нас памяці шлях пакутны.*
*Мы — маргіналы,*
*мутанты,*
*манкурты.*
*Скрануліся ў нашай натуры субстанты.*
*Мы — маргіналы,*
*манкурты,*
*мутанты.*

## Дзе добра?

*Добра там, дзе нас няма,*
*А там, дзе мы, дзе беларусы,*
*там махляроў розных цьма,*
*цьма змагароў за саюзы-хаўрусы.*

## Пра таго мужыка і пра гэтага

*"Дурны мужык, як варона"...*
*То не пра лёзненскага Мірона.*
*Гэты мужык — не варона, а сокал.*
*Ён узлятае вунь як высока!*

## Адна асаблівасць нашай школьнай рэформы

*З нейкага часу мінскім падлеткам*
*здаюцца сшыткі ўсе у клетку.*
*Нават тыя, што ў лінейку,*
*ім нагадваюць клетку нейкую.*
*Пішуць адно, а ў галаве*
*гэта крамольнае слова: "Жыве!.."*

## Уручэнне прэмій года

*Журы прыняло дружна рашэнне.*
*Пачынаецца прэмій уручэнне.*
*— Уручаецца прэмія ў намінацыі*
*"Лепшы майстра дэзінфармацыі".*
*— Уручаецца прэмія ў намінацыі*
*"Віртуоз фальсіфікацыі".*
*— Уручаецца прэмія ў намінацыі*
*"Заслужаны мастак спекуляцыі".*
*— Уручаецца прэмія ў намінацыі*
*"Верны рыцар інтэграцыі".*
*— Уручаецца прэмія ў намінацыі*
*"...ацыі... ацы-ы і - і..."*
*Назва тоне ў гуле авацыі.*
*Лаўрэатам нясуць шампанскае*
*вядомай маркі "Гэй-славянскае!"*

---

Васіль ІВАШЫН

●

*Не скарджуся, не наракаю*
*На свой я чалавечы лёс.*
*Без гора радасць не страчаю*
*І ў горы абыходжуся без слёз.*

*Багацця не прашу. Не трэба,*
*Апроч таго, што не вярнуць...*
*Увесь сэнс жыцця ў адной патрэбе,*
*Усе дарогі да яе вядуць:*

*Знайсці сябе, сваё прызванне,*
*Самім сабой заўсёды быць,*
*І ўсё аддаць, усё дазвання*
*Дабру — і праўды не забыць.*

●

*Юнацтва незабыўныя гады,*
*Вяснянкі мараў, іх напевы...*
*І свет такі надзіва малады,*
*І светлай радасці засевы.*

*І ўсё, як самы ранні першацвет,*
*Даўно сплыло, адкрасавала...*
*Ды толькі страчанага*
*доўгі след*
*Застаўся ў памяці трывала.*

*Шкада... Вясны жыцця больш*
*не вярнуць,*
*Пагасла ўжо яго світанне...*
*І ўсё ж, як і раней,*
*сады цвітуць*
*І ззяе залатое ранне.*

●

*О, колькі залацінак-кветак*
*Штогод красуе на зямлі,*
*Калі з вясной зрадніцца лета*
*І сонцам абагрэюцца палі!*

*Якое шчасце ў гэта красаванне*
*Адчуць сябе у іх радні,*
*Прыняць душой іх веснаванне*
*У гэтыя аквечаныя дні.*

*Іду да іх — вястунь дзівосных, —*
*Духмяных, слынных, маладых...*
*І свецяцца ў душы былыя вёсны,*
*Юнацтва недапетыя гады.*

## Пробліск надзеі

*І пробліск надзеі... Няўжо гэта ты?*
*І знікнуў твой след,*
*як прамень залаты,*
*Ды зноў засвяціўся чаканнем душы,*
*Маленькай іскрынкай яе ўзварушыў*
*І згас, нібы свечка, і зноў засвяціў,*
*І сэрца надзеяй маё ўскалыхнуў...*
*І хораша стала, і горнасць сплыла,*
*І сонца заззяла, і знікла імгла.*

# ДЫМ НАД КОМІНАМ

АПАВЯДАННЕ

Сяргей ШАЎЦОЎ



СЦЯПАНА ПЯТРОВІЧА забралі з бальніцы ранкам у пятніцу. Прыехала жонка Ніна з братам. Сцяпану Пятровічу толькі што зробілі ўкол. Яму было амаль добра.

Ён, вядома, не могу чуць, як доктар гаварыў жонцы ў калідоры: "Як вам сказаць? Мы зрабілі ўсё, што можна... Вы ж ведаеце... Калі б раней... Хвароба была надта запушчаная... Ну, што ж зробіш, Ніна Мікалаеўна, што ж зробіш... Як гаворыцца, усе пад Богам..." — і іншыя словы, цяпер бессэнсоўныя, але якія прынята гаварыць у такіх выпадках. Не мог чуць, што адказала жонка: "Ну, што вы, доктар, я ўсё разумею... дзякуй вам за ўсё..." З гэтымі словамі жонка хуценька азірнулася і спрытна паклала ў кішэню доктарскага халата канверт. Урач крыху пачырванеў, але нічога не сказаў.

А калі б Сцяпана Пятровіча гэта бачыў, то, верагодна, яшчэ раз пазайздросціў бы прыстасаванасці жонкі да жыцця. Сцяпан Пятровіч мог даць хабар толькі на падпітку, калі ўсё становіцца не такім складаным. Дзіўна, але і ў 43 гады ён захаваў дзіцячую непасрэднасць і наіўнасць.

А хутчэй, ён бы нічога не падумаў і нічога не адчуў. Звычайнае жыццё цікавіла яго ўсё менш.

Тое, што ў яго рак, Сцяпан Пятровіч здагадаўся на трэці свой бальнічны дзень. Раптам доктар стаў залішне клапатлівым і ўважлівым. Два-тры разы Сцяпан Пятровіч лавіў здзіўлена-спуджаныя позіркі маладзенькай сястры. Яна праходзіла першую практыку пасля вучылішча і ёй, канешне, сказалі, што вось гэты — смяротна хворы. Дзеўчынёсе было гадоў семнаццаць. Яна яшчэ не бачыла ні смерці, ні паміраючага чалавека. Вось гэта неяк раптам і адразу зразумеў Сцяпан Пятровіч. І пра яе, і пра сябе. Ён адвярнуўся да сцяны і моўчкі заплакаў...

Гэты дзень прайшоў, нібы пасля моцнай выпіўкі. Сцяпан Пятровіч памятаў яго момантамі. А ноччу пачаўся першы сур'ёзны прыступ болю. І стала не да адчуванняў, успамінаў, нават шкадаваць сябе сіл ужо не было. Усе яны ішлі на барацьбу з болем.

А прасвятленні былі толькі пасля ўколаў. І зноў Сцяпан Пятровіч думаў не пра хваробу і не пра тое, што будзе з ім. Аглушаны наркотыкам, ён толькі адпыхваўся, і з жахам чакаў новага прыступу.

...Аперацыя вынікаў не дала. Стала толькі больш болю. Метастазы распаўсюджваліся занадта хутка. Што-небудзь рабіць было ўжо позна. Заставалася — паміраць...

Калі жонка зайшла ў палату, бадзёра, падкрэслена энергічна, калі ўсміхнулася занадта штучна, а ў вачах яе прамільгнула нешта новае, чаго не было раней, Сцяпану Пятровічу зноў захацелася заплакаць. Ён адзначыў нейкае схаданае пачуццё ў душы. Жонка, нягледзячы на гады, была ўсё яшчэ прывабнай жанчынай з маладым, свежым тварам, маладымі ж вачамі — відаць, яе сялянскія карані былі моцнымі. І гэту прывабнасць, свежасць жонка схавала не магла, яна прабівалася ўсё роўна скрозь трагічны выраз твару.

Ніна была разумным чалавекам. Як большасць жанчын, памслівая ў дробязях, крыху істэрычная, але балбатлівая і камунікабельная, чаго Сцяпану Пятровічу заўсёды не ставала. У іх быў саюз працілеглэсцей. Верагодна, самы трывалы з усіх саюзаў. Жартам Сцяпан Пятровіч называў жонку "мой дыпламатычны прадстаўнік у знешнім свеце". Яму было цяжка сходзіцца з людзьмі, ён хутка ад іх стамляўся і больш маўчаў. Ён з радасцю аддаў гэтую частку жыцця жонцы.

Адразу пасля знаёмства ў іх быў кароткі бурны адрэзак узаемнага захаплення, як цяпер разумеў Сцяпан Пятровіч, звычайнага сексуальнага захаплення. Ён быў малады і зусім нявопытны і лічыў, што любяць — вось так. Потым, і не раз, Сцяпан Пятровіч ясна адчуваў, што на нейкае высокае і трагічнае каханне ён проста няздольны, гэта не яго. І супакоіўся. І зразумеў, што жонка яму, пры ўсіх яе недахопах, патрэбна менавіта такая. Яны дапаўнялі адзін аднаго. Выпадак увогуле распаўсюджаны.

Калі б Сцяпана Пятровіча спыталі: "Ці любіш ты сваю жонку?", ён бы, верагодна, не ведаў, як адказаць. Што такое каханне? Калі жонка доўга адсутнічала, Сцяпан Пятровіч адчуваў няўтульнасць і нейкую пустату. Стараўся заняць сябе любой работай, але гэта задавальнення не прыносіла. Ніна яму была патрэбна кожную хвіліну. Вось тут, побач, на канапе. Калі гэта і ёсць каханне, думаў Сцяпан Пятровіч, то няхай будзе так, тады я сваю жонку люблю.

...Канверт адыграў сваю ролю, дадому Сцяпана Пятровіча прывезлі на "хуткай дапамозе". Па тым, як беражна санітары яго вялі да ліфта, Сцяпан Пятровіч зразумеў, што ім таксама штосьці перапала. Калі ехалі ў ліфце, ён нечакана падумаў: "Цяжкавата ім будзе несці труну... Дзесяты паверх, па лесвіцы..." Сцяпан Пятровіч уявіў гэтую лесвіцу: там заўсёды моцна патыхала мачой, там-сям ляжалі кучкі акамянелага чалавечага дзярма.

Дома сустрэла спалоханая дачка. Бачна было, яна не ведае, як сябе паводзіць. І Сцяпан Пятровіч загаварыў наўмысна бадзёра, лёгка загаварыў, натуральна. Дачка адразу падхапіла яго тон. Сваю новую ролю яна яшчэ не разумела, ёй трэба было знайсці правільную інтанацыю. Увогуле, жанчынам гэта даецца лягчэй. Верагодна, праз іх жыццёвае прызначэнне.

Дачка адтаяла, а на большае Сцяпана Пятровіча не хапіла. Ён аслабеў, зноў пачаў падступаць боль; фельчар зрабіў апошні ўкол і брыгада "хуткай дапамогі" паехала.

Сцяпан Пятровіч заснуў, а прачнуўся ўжо ў цемры. У кватэры было ціха. Чуліся толькі прыглушаныя галасы са спальнага пакоя. Сцяпан Пятровіч падняў руку і паспрабаваў сціснуць пальцы ў кулак. Не атрымалася. Рука стала лёгкая, сухая, падалося — увогуле бясплотная.

Калі здараліся цяжкія скандалы з жонкаю і ў кватэры на тыдзень-другі павісала цішыня, Сцяпан Пятровіч любіў уяўляць сцэну свайго пахавання. Гэта было крыху па-дзіцячы, але падсвядома ён чамусьці быў упэўнены, што пампэ рана. Нязначную крыўду ён перажываў востра, да спазмаў у горле, ледзь не як канец жыцця. Гэтага свайго стану ён сам баяўся і потым, адышоўшы, усведамляў, што з псіхікай у яго нешта не тое. Праўда, аб гэтым ведала толькі Ніна, іншыя звычайна не здагадваліся. Для іх Сцяпан Пятровіч быў знешне вельмі стрыманым, маўклівым, замкнёным да адчужанасці чалавекам. З гадамі ён навучыўся для кожнага выпадку ствараць штучны вобраз: то гулякі-хлопца, то чулага таварыша па службе, то страснага донжуана. Хаця да канца ён не вытрымліваў і ўся гульня разбуралася. І ўсё дзеля таго, каб нікога ні на крок не падпусціць блізка.

На рабоце Сцяпану Пятровічу іншы раз гаварылі: што "адрываецца ад калектыву". Потым махнулі рукой, бо ён згодна ўсміхаўся, але працягваў жыць, як жыў. Яго да людзей не цягнула. Ён любіў за імі назіраць, у школе займаў месца на "камчатцы". Адтуль было ўсіх відаць, а яго — не. "Я сузіральнік", — неаднойчы пераконваўся Сцяпан Пятровіч.

У юнацтве, здаралася, ён мог адразу закахацца ў чалавека, мог гадзінамі за ім хадзіць, лавіць кожнае слова ці жэст. Потым гэта бывала ўсё радзей. Цяпер Сцяпан Пятровіч аб тым шкадаваў. Разам са шкадаваннем мільгала думка: "А які зараз сэнс?" Думка была спакойная, нават лянівая. Можа быць, гэта можна было патлумачыць дзеяннем наркотыка?

Сцяпан Пятровіч стаў цаніць кожную хвіліну, іх заставалася ўсё менш. Думаў і ўспамінаў. Час ад болю да болю стаў яго сённяшнім жыццём. Ён нават знаходзіў у гэтым асалоду і некаторую вытанчанасць. Жывы, Сцяпан Пятровіч амаль фізічна адчуў, што знаходзіцца як бы па-за законам, законы, па якіх жывуць людзі, яго ўжо не датычаць. Ён выпаў у тую таямнічую рэальнасць-нерэальнасць, якая называецца "паміж смерцю і жыццём". Прычым, слова "смерць" трэба ставіць на першае месца. Да смерці Сцяпан Пятровіч быў бліжэй...

Між іншым, вакол усё ішло па завядзёнцы. Ранкам дачка ішла ў школу, за ёю — жонка на работу. Ніна яму штосьці гаварыла, рабіла ўкол, яна ўмела, разам з тым, Сцяпан Пятровіч усёй душою адчуваў, што жонка і ён жывуць як бы ў розных вымярэннях. Прыходзілі прывычныя думкі аб сваёй тут непатрэбнасці. Думкі былі абкатаныя, гладкія, нейкія аўтаматычныя. Прывычным было параўнанне са старым зламаным крэслам; яно стаяла ля вакна. Яго даўно трэба было выкінуць, але было шкада.

Часам Сцяпана Пятровіча ахапліваў пранізлівы адчай. Ён ціха плакаў. Проста з вачэй каціліся слёзы. Сцяпан Пятровіч іх глытаў, адчуваючы на языку соль. Ён нават здзіўляўся, яму здавалася, што "салёныя слёзы" — гэта выдумка, мастацкае параўнанне. У сваім жыцці Сцяпан Пятровіч плакаў рэдка. Слёзы ён хуценька выціраў, не дай Бог — заўважаць. Зараз на гэта сіл не было, і Сцяпан Пятровіч нарэшце адчуў іх смак...

Часта ён сніў адзін і той сон. Вось ён ідзе ў прыцемках па брукаванай вуліцы. Прайшоў дождж, каменне бліснуць у святле жоўтых ліхтароў. Раптам Сцяпан Пятровіч пачынае падаць тварам на брук. Спрабуе ўтрымацца на нагах і... яму гэта не ўдаецца. Падае, але болю не адчувае. Потым хоча падняцца. І не можа. нейкая сіла налівае цела неадольным цяжарам. Ён застаецца ляжаць у брудзе і вадзе. Пасля гэтага Сцяпан Пятровіч звычайна прачынаўся. Потым быў будзённы дзень. Сон забываўся, выцісnуты рэальнымі падзеямі. Жонка разгадвала любы яго сон. Але пра гэты Сцяпан Пятровіч не расказаў: Божа, і так усё ясна...

Зайшла жонка. "Сцёпа, можа, што трэба? Можа, вады ці гарбаты?" "Трэба, — вельмі спакойна адказаў Сцяпан Пятровіч. — Трэба, каб ты знікла". Нават у цемры Сцяпан Пятровіч адчуў, як пакрыўдзілася жонка. Выпрамкі пачало яму не хапаць. Безупынная барацьба з болем зрабіла Сцяпана Пятровіча злым і раздражнёным.

А ўсё ж нездарма яны пражылі разам дваццаць год. Сцяпан Пятровіч мог на слых адчуць настрой жонкі, яе магчымую рэакцыю на яго крыўдныя словы. Рэакцыя заўсёды была аднолькавая. Жонка пачынала ўспамінаць усю радню Сцяпана Пятровіча, падрабязна пералічвала крыўды, потым пераходзіла на мужа. Сцяпан Пятровіч так прывык да гэтага, што аднойчы з жудасцю падумаў: так будзе да канца!

Сцяпан Пятровіч не адзін раз рашаў: "Усё, шукаю кватэру", а пахмельным ранкам, які разрываў душу на кавалкі, думаў зусім іншае. Ён адчуваў: жыцця няма, яно разбурылася, распалася на асобныя цагліны, над якімі вісіць шэры пыл. Тым не менш, ён гаварыў сабе: "Ну, што ж... Можа, як-небудзь... Будзем вяртацца ў жыццё".

Нічога "як-небудзь" не было, гэта Сцяпан Пятровіч разумеў... Аднак думаць, што гэта магчыма, што гэта — варыянт, было асалодай, падманлівай і, верагодна, неабходнай марай. Якая давала магчымасць жыць далей.

З жонкаю скл аліся дзіўныя адносіны кахання-нянавісці. Былі моманты, калі Сцяпан Пятровіч свята вер ыў, што любіць жонку. Потым яны праходзілі. Сцяпан Пятровіч усё чакаў нечага дзіўнага, незвычайнага, а дзіўнага ўжо нічога не было і быць не магло. Ён усё жыццё чакаў нечага дзіўнага. Звычайны сонечны, марозны ранак з цішынёю і сівым дымам па-над комінам мог прынесці яму незразумелую ўзнёсласць і нарадзіць цэлы шэраг няясных, але шчаслівых асацыяцый. Адчуванне шчасця заканчвалася нічым, а ўзнёсласць знікла з надыходам дрэннага надвор'я. Праўда, яго Сцяпан Пятровіч любіў яшчэ больш, чым добрае. Пэўна, яно адпавядала яго душэўнаму складу.

Аднойчы Сцяпан Пятровіч сабраў сілы і выйшаў у ванны пакой. Хвілін пяць ён углядаўся ў люстэрка. Лямпа была зыркая і твар можна было разгледзець ва ўсіх падрабязнасцях. З люстэрка на Сцяпана Пятровіча глядзеў незнаёмы чалавек. Чэрап, абцягнуты шараватаю, зморшчанаю скурай, бяздонна-сумныя вочы з цёмнымі кругамі. Жыцця ў іх ужо не было. Не тое, што Сцяпан Пятровіч прывык да думкі аб сваёй смерці, — прывыкнуць да гэтага немагчыма. Проста ён жадаў, каб боль скончыўся як мага хутчэй. Таму перад люстэркам ён спакойна падумаў: "Верагодна, ужо хутка..."

Усё гэтак жа ціхенька і асцярожна заходзіла ў залу жонка, пра штосьці гаварыла, нешта пытала. Сцяпан Пятровіч не заўсёды адказваў, дый не заўсёды разумеў, пра што яго пытаюць. Ён быў далёка. І адчуваў, што мае на гэта права. Цяпер — поўнае права. Ніколі ён тут не меў рашаючага голасу, а вось — займеў. З ім раіліся. Жонка сур'ёзным голасам пытала, якую куртку купіць дачцэ. Сцяпан Пятровіч разумеў цану гэтых пытанняў, але — маўчаў. Гэта раздражняла жонку. Сцяпан Пятровіч разумеў, што ёй трэба. Каб ён плакаў, крычаў, і каб жонка "да апошняй хвіліны была побач", і каб падала знакамітую апошнюю шклянку вады. Іншы раз Сцяпан Пятровіч так ясна ўяўляў, што і як Ніна будзе гаварыць пра яго на хаўтурах, ажно станавілася нават смешна. У яе была такая асаблівасць, усіх ратаваць, усім дапамагаць і быць карыснай з дальнабачнай думкай мець карысць і самой. Калі Сцяпан Пятровіч бываў у цынічна-злым настроі, ён называў Ніну "маці-гераіняй" альбо "маці Тэрэзай". Ён гэта ўмеў, двума-трыма словамі, асаблівай з'едлівай інтанацыяй зрабіць чалавека няшчасным. А потым шкадаваў і раскайваўся, ён сам ненавідзеў любое прыніжэнне. У прынцыпе, Сцяпан Пятровіч быў чалавекам мяккім, цярплівым, нават добрым. Праўда, аб гэтым мала хто ведаў. Гэтая яго частка неяк не рэалізавалася...

Бывала, заходзілі знаёмыя. Іх візіты Сцяпан Пятровіч пераносіў з цяжкасцю. Ён загадзя ведаў, што будуць гаварыць, які выраз тварам будзе, і адчуваў сваю выключнасць, сваю глухую, безнадзейную адзіноту. Таму што праблема, яго любімае слова, была простай: ім выпадала жыць, а яму — не. Гэта Сцяпан Пятровіч навучыўся чытаць па вачах. У іх было: што ж, цябе, вядома, шкада, нармальны ты быў мужык, але нам вось трэба жыць, мы жывём, і што тут зробіш, нашай віны няма. Часам тое ж Сцяпан Пятровіч заўважаў у вачах жонкі і дачкі. Яны з ім як бы ўжо развіталіся. Сярод жывых ужо не лічылі...

У нядзелю Сцяпан Пятровіч зноў устаў. Падышоў да вакна. На вуліцы ішоў снег. Густы, ад чаго блізкія дамы былі ахутаны туманам. Ён любіў, калі ішоў снег. Тут заўсёды было нешта новае, нейкія змены. Мяняўся пейзаж, а можа быць, справа была ў звычайных фізіка-хімічных працэсах: калі ідзе снег, паветра становіцца чысцейшым. Аднак у душы Сцяпана Пятровіча ўжо нічога не варухнулася. На сяйво сняжынак ён глядзеў абыякавым шэрым позіркам.

Пасля абеду Сцяпан Пятровіч заснуў. І больш не прачнуўся. Ён памёр у сне. Як і хацеў...

## Перамога ў Парыжы

**Кідкая абвестка ў рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі адразу прыцягнула ўвагу. Гэта было віншаванне — вучню адзінаццатага класа Кірылу Казлоўскаму і ягонаму педагогу па фартэпіяна Ірыне Семяняка за першае месца ў другім Міжнародным юнацкім фартэпіянным конкурсе Шапэнаўскага цэнтра ў сталіцы Францыі Парыжы.**

**— У гэтым творчым спаборніцтве ўдзельнічалі піяністы ад сямі да дзевятнаццаці гадоў, — расказвае Ірына Юр'еўна. — Сярод іх былі музыканты з Францыі, Індыі, Японіі, Расіі, Беларусі. Журы ўзначальвала былая выпускніца Маскоўскай кансерваторыі эмігрантка з Літвы, а цяпер прафесар Парыжскай кансерваторыі Муза Рубацкітэ. Я амаль упэўненая, што Кірыла паспяхова выступіў у гэтым конкурсе, таму што, па-першае, сапраўдных сапернікаў у яго, можна сказаць, не было. Кірыла Казлоўскі, якому зараз 16 гадоў, быў у перадапошняй узроставай групе. Ён з Гродна, з немузычнай сям'і, займаецца ў мяне амаль тры гады. Паказаў сябе на гэтым конкурсе тонкім інтэрпрэтатарам, цудоўным выканаўцам. Уся ягоная праграма, у якую ўваходзілі Эцюд і Скерца Шапэна, Саната N 8 ля мінор Моцарта, адпавядала творчай індывідуальнасці гэтага адухоўленага тонкага піяніста рамантычнага складу.**

**Магчыма, некаторыя памятаюць, як ярка ён граў летась у зале сталічнай філармоніі Канцэрт Пракоф'ева з сімфанічным аркестрам і Канцэрт Моцарта рэ мінор з камерным. Педагог тонка адчувае індывідуальнасць свайго вучня, дае магчымасць развівацца — захапляецца высокім інтэлектам хлопца. Між іншым, глыбокае веданне выяўленчага мастацтва паказаў Кірыла, калі яны разам з настаўніцай адправіліся ў Луўр. Ён фактычна стаў яе гідам.**

**На парыжскім конкурсе ў юнага піяніста з'явілася нямала паклоннікаў, якія на заключным канцэрце наладзілі яму сапраўдную авацыю. А летась выхаванка Ірыны Семяняка Яўгенія Есмановіч, якая тады вучылася ў сёмым класе, заняла першае месца на фартэпіянным спаборніцтве французскага музычнага таварыства. Сёння ж мы зноў віншуем таленавітага педагога і ейнага вучня з выдатнай творчай перамогай.**

**Вера КРОЗ**

## "Я маю край..."

**"Гэта значная дата сусветнага календара", — так азначыла двухсотыя ўгодкі Адама Міцкевіча дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Г. Алейнік. Разам з ёю адкрылі выставу, прысвечаную знамянальнай даце, яшчэ два дырэктары — Аб'яднання літаратурных музеяў Л. Хадкевіч і Дзяржаўнага архіва-музея Г. Запартыка. Прысутныя даведаліся, што на радзіме паэта ў Завоссі адкрыецца ўвосень вялікі музейны комплекс у гонар славутага паэта-рамантыка.**

**Сама ж выстава, створаная намаганнямі бібліятэкі, архіва і Музея гісторыі беларускай літаратуры, называецца "Я маю край, радзіму дум маіх..." і прадстаўляе прыжыццёвыя ды пазнейшыя выданні твораў А. Міцкевіча, што выходзілі ў Парыжы, Варшаве, Лейпцыгу, Пецярбурзе, Вільні. Сярод экспанатаў — і першы пераклад "Пана Тадэвуша", зроблены В. Дуніным-Марцінкевічам і перапісаны ў 1893 годзе Б. Эпімах-Шыпілам.**

**На адкрыцці выставы ў Нацыяналцы бралі слова паэты. На думку Кастуся Цвіркі, няма ў нас аўтара больш забытага і малавядомага, чымся навагрудскі зямляк. Яму будзе прысвечаны адзін з выпускаў Беларускага кнігазбору. Ніл Гілевіч падкрэсліў нашы асаблівыя адносіны да польскага паэта. Бо казаць, як пра іншых, што ён "звязаны з Беларуссю", — замала. Ад першага і да апошняга радка яго паэзія вырасла з гэтай зямлі, яе спадчыны, яе фальклору, яе прыроды. "Дык не будзем шапку камячыць", — падсумаваў вядомы пісьменнік.**

**Г. К.**

## "Кліч продкаў" і іншыя

**Нечаканыя сюжэтныя павароты, характары моцных, валявых людзей, незвычайныя сітуацыі, рамантыка паўсядзённасці, спалучаная з жыццёвай рызыкай — гэтыя і іншыя якасці, як вядома, прываблівацюь ужо не адно пакаленне ў творах знакамітага Джэка Лондана. Іх з задавальненнем чытаюць ва ўсім свеце і на розных мовах. Лепш, канечне, калі на сваёй роднай. Дзеля гэтага і парупілася выдавецтва "Полымя", выпусціўшы ў серыі "Школьная бібліятэка" аднатомнік выбраных твораў Д. Лондана "Кліч продкаў", перакладзены на беларускую мову Н. Саламевіч і А. Саламевічам. Кнігу склалі аднайменная аповесць, а таксама аповесць "Любоў да жыцця" і апавяданне "Белы клык".**

ФЕСТЫВАЛІ

I

Пішу табе, дружа, з Памежжа — з дзівоснага краю, з дзіўнага часу. З памежжа красавіка і траўня. З памежжа забыцця і адраджэння. З памежжа будзённыя і карнавалу. З памежжа "заўжды" і "ўпершыню", "зараз" і "заўтра"...

Блазную? Не, проста форму для аповеду шукаю. Адэкватную казачнай рэальнасці, у якой існуюць "Музы Нясвіжа" — фестываль напраўду дзівосны і дзіўны.

Люблю непаўторнасць у спрадвечным і ўстойлівым! І таму падабаецца мне гэтае ўжо трохгадовае дзіця маэстра Міхала Фінберга ды ягоных спадзвіжнікаў — традыцыйны і адкрыты для новых ідэй фэст камернай музыкі. Дарэчы, як важна, што сур'ёзнае некамерцыйнае мастацтва займела (хай сабе сезонную, затое трывалую) несталічную безыменныя музыкі: гучаць, не замінаючы адно аднаму, стылізаваныя пад старасветчыну ансамблі. Трапечуцца жывыя агеньчыкі свечак у высокіх кандэлябрах...

Няспешны свецкі рух неўпрыкмет напаўняе залу. На сцэне пануе тое самае ірэальнае Памежжа, дзе сыходзяцца Паганіні з верша Міхася Скоблы, трубачы і статысты ў старадаўніх строях, героі акцёраў-купалаўцаў Віктара Манаева ды Віталя Рэдзькі, чый дуэт на тэму "Парыж — Нясвіж" успрымаецца ўжо не ўрыўкам са славутай "Ідыліі", а рэпрызай, напісанай адмыслова для гэтага вечара. І яшчэ — паланез М. Кл. Агінскага "Развітанне з радзімай", пастановачны атрыбут "Ідыліі" ды сімфанічная візітоўка нясвіжскага фестывалю. Прамова міністра культуры Аляксандра Сасноўскага. Публіцыстычна-асветніцкі каментарый вядучай канцэртных праграм Вольгі Дадзіёмавай...

ным спяваннем першая скрыпка — Святлана Іванюковіч.

Была і прэм'ера: Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута ўзняў, можна сказаць, ужо з нябыту манументальную партытуру нашага знанага земляка Восіпа Казлоўскага — "Рэквіем". Летась на канцэрце ў гасцёўні радзівілаўскага замка былі прадстаўлены фрагменты гэтай працы. Цяпер твор, напісаны два стагоддзі таму, зрабіўся нібыта новай падзеяй нашага музычнага жыцця, яго набыткам. Разлічаны В. Казлоўскім на вялікі выканаўчы склад, ён прагучаў з даверлівай, набліжанай да слухача, інтанацыяй, дзякуючы адмысловай выразнасці камернага калектыву. Уразілі маладыя салісткі Таццяна Пятрова, Наталля Трашко ды Інга Камінская.

Люблю непаўторнасць у спрадвечным і ўстойлівым! — паўтару табе, дружа, на закан-

# Паштоўкі з "Музамі Нясвіжа", або Тры дні ў некаранаванай сталіцы

прапіску, што яно аказалася і зразумелым, і запатрабаваным у гэтым мястэчку, пра колішні свецкі бляск якога расказваюць сёння хіба толькі аматары-краязнаўцы ды спецыялісты-гісторыкі.

Кажуць, што культура таго, старасвецкага Нясвіжа, які доўгі час быў домам некаранаваных каралёў нашага краю, перайшла ў генную памяць тубыльцаў... Вось і не хавае свайго захаплення навуковы кіраўнік фестывалю прафесар Уладзімір Скараходаў (а ён па свеце паездзіў): такой выхаванай, уважлівай, чулай, удумлівай і шчырай публікі, як у Нясвіжы, ён не бачыў нідзе! Вось і паведамляе ўсцешаны мэр і старшыня райвыканкама Уладзімір Дражын, што на ягоную просьбу падтрымаць культурную акцыю адгукнуліся каля ста суб'ектаў гаспадарання і без аніякага адміністрацыйнага націску вылучылі пэўныя сродкі на правядзенне фестывалю. Ёсць жа дзівакі, якія, напрыклад, замест бутэрбродаў з далікатэсамі пацешылі б сябе білетам на канцэрт. Або купілі б набор паштовак з музамі Нясвіжа...

Праўда, паштоўкі такія існуюць пакуль толькі ў нашым з табой уяўленні. Таму гасцям свята падаравалі каляровыя камплекты з фотавыявамі нясвіжскіх краявідаў ды розных адметнасцяў, да якіх маюць дачыненне і музы.

Пра паштоўкі ўспомніла, разглядаючы яркія каляровыя работы Віктара Данілава, чыя фотавыстава працавала падчас фестывалю. "Нясвіжскі каляндар" — так называецца выбітная серыя здымкаў, праз якія іхні аўтар выказаў сваю любоў і замілаванасць да старадаўніх муроў, рамантычных і прыгожых у кожную часіну года, у розных ракурсах.

Пра няўгледных музаў згадала, пабываўшы на вернісажы самабытнага жывапісца Уладзіміра Кожуха: жаночае аблічча з ягоных карцін, капрызліва-зменлівае і нібыта ўсё тое ж, — істэрычнае, стрыманае, нерухомае, імклівае... Яно, гэтае дысгарманічнае аблічча, дзіўным чынам дапаўняла бязлюдную "паштоўкавую прыгажосць" архітэктурных краявідаў з фотавыстаўкі.

І ведаеш, дружа, што мне падумалася? Што для сапраўднай візуальнай гармоніі не хапала трэцяй выставы. Выставы фотамайстра Віктара Стралкоўскага, які тры гады запар прыязджае на фестываль і з уласцівай яму рэпарцёрскай назіральнасцю ды мастацкім густам робіць выразны жыццяпіс нясвіжскіх муз. Сам ён, праўда, вельмі сціпла трактуе свой фестывальны чын. Але ж мы з табой ведаем, як прыемна было б і артыстам, і арганізатарам, і публіцы ўбачыць той сціплы летапіс мінулых фестывальных падзей! Тым болей, што вакол нясвіжскіх імпрэзаў гуртуюцца людзі, неабыякавыя да мінулага — у розных яго праявах.

Калежанка мая нават не магла даўмецца: скуль у людзях такая настальгія па мінулым, што яна значыць? Уцёкі ад рэчаіснасці? Імкненне да каранёў? Прагу ідылічных стасункаў з жыццём? Сярод публікі, што сабралася ў чаканні ўрачыстага адкрыцця фэсту, раз-пораз пакажацца дзіўная постаць: дэкаратыўны парык, строй кшталту адзення 18 стагоддзя. У розных кутках фае шчыруюць




*Вечарам 2-га траўня.*



*Старшыня Нясвіжскага райвыканкама У. ДРАЖЫН, намеснік начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення культуры Л. ПАШКУН, музыказнаўца В. ДАДЗІЁМАВА, народны артыст Беларусі М. ФІНБЕРГ.*

А тады запанавала музыка, якая з'ядналa ў сабе тутэйшую шчырасць і заходнееўрапейскую вышталцонасць. Міхал Клеафас Агінскі, Соф'я Радзівіл. Паланез і вальс, "Ідылія", "Раманс"... І зноў — стыхія танца! Уяўленне паслужліва "пракручвала відэастужку": юныя шляхетныя постаці, адухоўленыя твары герояў балета... Перад вачамі ж былі толькі музыканты — Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі (калектыў працуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі). І вылучалася ў ім сваім чыстым, пранікнёным, вобразным соль-

чэнне. Таму і дарагі мне "Sonorus": стабільны — і адкрыты для новага. Па-сучаснаму лёгкі на ўздым, рухомы — і ўгрунтаваны ў стылях і даўнія традыцыі. Мы выкрэнчваем язык, мы цэнім лішнія словы на афішах, замест таго, каб назваць калектыў "Sonorus" коратка і адпаведна яго цяперашняму творчаму чыну: капэла. Бо даўно ўжо маэстра А. Шут працуе паводле традыцыйнай і прагрэсіўнай мадэлі еўрапейскіх (старабеларускіх) капэл: хор, аркестр, салісты — "пад адным дахам".

II

Прыемна павітацца з табою, дружа, і паведаміць: у першы дзень траўня нас пабудзіла яркае світальнае сонейка, пеўні ды садовыя птушкі. Я ўспомніла леташні фестывальны Нясвіж: азяблае галлё з бледнымі нераскрытымі пупышкамі, голая зямля; мае панылыя калегі, з якімі разам "бамжавалі" на радзівілаўскіх лаўках, бавячы час да чарговай імпрэзы, — нас тады пасялілі ў Клецку і штораніцы адвозілі на фестываль...

Люблю непаўторнасць у спрадвечным і ўстойлівым! — я табе ўжо, здаецца, надакучыла гэтым. Але ж сапраўды, як файна: зноў пачатак траўня, зноў фестываль, усё тыя ж і тамсама — і ўсё як па-новаму! Нават у спрадвечнай прыродзе: ужо квітнеюць вішні ды цюльпаны, з густой травы зыркаюць вочкі незабудак, ад водару чаромхі можна здзяйсніцца! І проста цудоўна, што сёлета ў парку не ладзілі канцэртаў. Гэта летась выступленні самадзейных музыкаў на "зялёных" эстрадах узнімалі настрой, сагравалі душу — бо вакол было не зелена, а шэра, бо халодны нядобры вецер нібыта павярнуў тады час на месяц назад.

А сёлета — сёлета "пленэрная музыка" магла б пацешыць хіба толькі глухаватых. Бо грэх было б змешваць яе з такой рэдкай гармоніяй "экалагічна чыстай" партытуры: у цішыні парку перамаўляліся стракаценькія зяблікі, з пяшчотным шолахам уздрыгвалі-распраўляліся мокрыя пасля магутнай першай навальніцы лісткі ды кволыя маладыя галінкі. А салаўі! Які дуэт пашчасціла нам паслухаць: птушкі-спаборнікі літаральна праціналі сэрца сваімі трэлямі ды пошчакам — той атабарыўся ў гаі, а другі акурат насупраць, у прыазерным кустоўі...

Вось так праграма птушыных спеваў з яе кульмінацыяй — салаўіным канцэртам — дапоўніла музычныя імпрэзы фестывалю.

А традыцыйным складнікам была навуковая канферэнцыя. "Мастацтва Нясвіжа: шляхі і перспектывы даследавання" — гэтую тэму падсілкоўвалі, зразумела, на розны лад, амаль два дзесяткі дакладаў. І спрэчкі ўсчыналіся. Напрыклад, наконт сапраўднага ўзросту Нясвіжа, які, можа стацца, ранавата наважыўся спраўляць 750-гадовы юбілей... Зрэшты, калі ты, дружа, сур'ёзна цікавішся зместам сёлетніх навуковых паведамленняў — чакай выдання матэрыялаў канферэнцыі. Яе арганізатар і вядучы, прафесар Уладзімір Скараходаў падкрэсліў, што цяпер выдавацца будуць не тэзісы, як тое рабілася ў папярэднія гады, а даклады цалкам.

А яшчэ падчас канферэнцыі адбылася прэзентацыя навінак выдавецкай дзейнасці Беларускага інстытута праблем культуры, які ўзначальвае У. Скараходаў. Мне, прызнацца, пашанцавала на персанальную прэзентацыю: яшчэ па дарозе на Нясвіж, у аўтобусе, Уладзімір Паўлавіч паказаў чатыры прыгожыя нотныя зборнікі, якія толькі-толькі выйшлі з друкарні.

"Танцавальная сюіта для камернага аркестра" Міхала Клеафаса Агінскага — гэта аркестроўка фартэпіянных твораў, зробленая нашчадкам кампазітара, нашым сучаснікам Іва Залускі, які жыве ў Англіі, але цікавіцца ўсім, што звязана з імем яго знакамітага сваяка. Летась браў удзел у журы конкурсу камерных ансамбляў імя М. Кл. Агінскага ў Смаргоні. Тады і перадаў партытуру для публікацыі.

Другі нотны сшытак складаюць творы М. Кл. Агінскага для маленькіх ансамбляў. Пералажэнне, зробленае выдатным беларускім флейтыстам і педагогам Генадзем Гедыльтарам, дазваляе развіваць у маладых музыкантаў навыкі ансамблевай ігры, значэнне якой дагэтуль у нас недаацэньвалася.

Выдадзены таксама рамансы з вакальнага цыкла Міхала Казіміра Агінскага "Да Касі" і зборнік музычнага настаўніка сям'і Агінскіх, знакамітага Восіпа Казлоўскага.

Дарэчы, У. Скараходаў зазначыў, што "фірма Фінберга" робіць усё, каб старадаўняя беларуская музыка загучала ў аркестры, а БІПК зробіць усё, каб выходзіла серыя нотных зборнікаў, прысвечаная кампазітарам нашага мінулага. І павітаў падзвіжніцкую дзейнасць Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла" на чале з Віктарам Скорабагатавым, якое ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнага музычнага выдавецтва таксама бярэ на сябе нялёгкі і высакародны чын выдання нот.

І мая 1998 года, 11 гадзін — запомнім час падзеі, якая сталася самай важнай у фестывальным жыцці Нясвіжа і адметнай для беларускай культуры. У знакамітым Фарным касцёле пачаўся першы канцэрт! Не варта распавядаць, праз якія арганізацыйныя, маральныя цяжкасці прайшлі тыя, хто яго ладзіў і хто ў ім удзельнічаў. Галоўнае — адбылося!

Публіка — недаверлівая і цікаўная. Асветніцкі каментарый. Пераканальны і захапляючы ў сваім натхнёным выкананні "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута...

Калісьці служыў у тым самым касцёле арганіст Шымкевіч. Напісаў абыходкавую музыку для імшы. Праз 200 гадоў занядбаны нотны рукапіс быў знойдзены даследчыцай Тамарай Ліхач. Прафесійнымі намаганнямі ды творчай фантазіяй кампазітара Алега Залётнева "Імша" Шымкевіча набыла значэнне мастацкага твора. Воляю і майстэрствам дырыжора Аляксея Шута загучала яна — нібы прэм'ера праз 200 гадоў! — у фантастычна-пявучых мурах таго самага касцёла... (Летась "Імшу" Шымкевіча—Залётнева выконвалі ў замку).

Следам, як новы творчы крок па шляху адраджэння і развіцця традыцый беларускай касцельнай музыкі, — яшчэ адна нясвіжская прэм'ера: кантата Аляксандра Літвіноўскага "Да Маці Божай", твор з рэпертуарнага актыву А. Шута, але пакуль мала знаёмы і ў сталічным асяроддзі. Немудрагелістыя і шчырыя кананічныя тэксты, якія кампазітар узяў са школьнага малітоўніка, выдадзенага кс. Адамам Станкевічам, сталіся "слоўным штуршком" для стварэння прыгожай пранікнёнай музыкі, пра якую мне ўжо неаднойчы даводзілася пісаць і якую я па-ранейшаму не магу слухаць са спакойным сэрцам... Было нават прыемна, калі публіка, недачакаўшыся драматургічнай кропкі, "сарвалася", заапладзіравала пасля найбольш чуллівага канта. Было радасна, што і гэтае ўрачыстае выкананне ў сценах рэлігійнай святыні (нашай гістарычнай, культурнай святыні), і поспех кампазітара (дарэчы, на другім фестывалі запар) супалі з днём ягонага нараджэння...

Пасля канцэрта да маэстра А. Шута падыходзілі шчырыя нясвіжскія беларусы-каталікі: з падзякай за падоранае харawство, з надзеяй-просьбай наконт новых выступленняў у касцёле.

III

Вітаю зноў! І перапрашаю, што ў маёй папярэдняй паштоўцы ні слова няма пра вечаровы першамайскі канцэрт. Надта ж ён адрозніваўся ад таго, што адбылося раніцай у касцёле, — не хацела змешваць уражанні...

А ў той вечар зноў было новае. Упершыню ў нясвіжскім фестывалі ўдзельнічалі юныя музыканты! Паказаць таленавітых беларускіх дзяцей, якія вылучыліся на V Міжнародным конкурсе камерных ансамбляў імя М. Кл. Агінскага і якія, магчыма, неўзабаве папоўняць нашу музычную эліту, — гэта была ідэя У. Скараходава. І спраўдзіцца яна мусіла ў першым канцэртным аддзяленні, праграма якога загадзя абяцала сустрэчу з тымі ансамблямі ды адным салістам.

Ды жыццё, як той казаў, уносіць свае карэктывы. Праграму перайначылі. Музыку (хаця яна, лічы, і не змаўкала) трохі пацягнула ў кут брутальная рэжысура відовішча. Былі тут дзеткі з харэаграфічнага ансамбля "Беларусачка" (кіраўнік Ірына Багдановіч), і спатканне герояў "Ідыліі" (артысты Зоя Белахвосцік ды Віталь Рэдзька). І вядомы баранавіцкі "Кантраданс" (кіраўнік Андрэй Канстанцінаў) у аксамітных "даўніх" апранахах, з унікальным у цяперашнім сямействе айчынных канцэртных інструментаў, зайздросным для многіх музыкаў наборам германскіх копій з аўтэнтычнага барочнага інструментарыя, з вытанчаным старасвецкім рэпертуарам. І чытанне вершаў. І праходкі ў балёвых сукнях. І захопленыя аповед В. Дадзіёмавай пра Нясвіж — гэтую зорку на музычным небасхіле мінуўшчыны, узорны асяродак колішняй поліцэнтрычнай беларускай культуры, якому самой гісторыяй наканавана стаць адной з першых ластавак яе адраджэння...

А юныя музыкі? Дайшла чарга і да іх. Загучалі Шуманавы "Мроі", на сцэну выплылі постаці паненак у белых сукнях-кашулях, са штучнымі буклямі на юных галоўках, з белымі скруткамі ў руках. Відаць, нешта "не спрацавала" ў задуманай харэаграфічнай метафары, бо... Міжволі ўспомніўся герой Андрэя Міронава з папулярнага фільма, перапрануты кабетай з "немаўляткам". Пры гэтым трыо юных музыкантаў аказалася й сапраўды ў кутку...

Праўда, потым усё было па-канцэртнаму.

Гралі два ансамблі навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, падрыхтаваныя Тамарай Жаравай, Ірынай Галачкінай.

Нечаканасцю стаўся прыезд скрыпача Алега Яцыны (канцэртмайстар Цімур Сергяеня), юнага лаўрэата нядаўняга Міжнароднага конкурсу Ягудзі Менухіна ў Францыі: выступіў на "ура"!

У саксафаніста Рамана Шыманца з Баранавічаў таксама ёсць міжнародныя лаўры. І хаця няма на іх французскага лоску (хлопчык вызначыўся на конкурсе ў Смаргоні), на сваім бліскучым інструменце, саксафоне, Раман іграў яскрава! Іграў — як дыхаў...

"Музы Нясвіжа" прадстаўляюць новыя імёны, якія робяцца адкрыццямі для большасці слухачоў, апякуюцца маладымі талентамі, — здаецца, гэта можа быць адным з перспектыўных напрамкаў развіцця фестывальнай канцэпцыі?



*Пад "Мроі" Шумана...*

Не думай, дружа, што выступленні юных выканаўцаў завяршылі той канцэрт. Не! У другім яго аддзяленні граў знаны ансамбль "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава — дарэчы, дэбютант "Музаў Нясвіжа". Праграма гэтага калектыву, добра вядомая табе з леташняга фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы", досыць прыдалася цяпер: "Голанд у Нясвіжы". Усё прагучала цудоўна! Мала таго: выкананню уверцюры да Голандавай оперы "Агатка", напісанай на лібрэта Мацея Радзівіла, папярэднічала... прэзентацыя. Мастацкі кіраўнік аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў выйшаў на сцэну са свежым, тры дні як атрыманым, нотадрукам. З клаўірам "Агаткі"!

Першы выдадзены на Беларусі клавір першай беларускай оперы, першы падарунак "Музам Нясвіжа" і гораду, які стаўся прытулкам для далікатных апякунак прыгожых мастацтваў.

Раней ноты беларускіх опер, вядома, таксама друкаваліся, але ў Маскве, Ленінградзе, Берліне, Варшаве. Намаганнямі "Беларускай Капэлы", Беларускай акадэміі музыкі, фірмы "Паліфакт" працаёмкі ды гожы нотадрук з'явіўся тут. Падарунак прыняў Уладзімір Несцеравіч Дражын, "добры геній" тутэйшых музаў, якія, дарэчы, апекаваліся некалі беларускім нотадрукарствам — лічыцца, што радавод яно вядзе ад Мікалая Радзівіла Чорнага...

Эх, дружа! Былі б мы заможныя, як тыя колішнія Радзівілы, разгарнуліся б імпрэзы нясвіжскіх музаў, відаць, не на тры дні, і пачуваліся б яны вальней, не заціснутыя рэгламентам, і канцэртаў было б паболей, і тады праграмы атрымліваліся б больш кампактныя. А мае аповеды пра іх — не такія зацягнутыя.

Каб зусім ужо не стаміць цябе, коратка скажу пра тое, як сёлетні фэст завяршыўся. Быў разнастайны і, зноў жа, вялікі канцэрт. (Можа, пачынаць трэ было на гадзіну раней?). Ігар Забара чытаў маналог з "Моцарта і Сальеры", затым напльвалі гукі славутага паланеза "Развітанне з радзімай", і артысты тэатра старажытнай моды (кіраўнік Іна Булгакава) разгортвалі сваю імпрэзу. Потым віталі аргкамітэт. Віталі прысутных замежных дыпламатаў. Але галоўная ўвага была скіравана, дзякуй Богу, на музыку.

Актэт драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова і Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі (абодва калектывы, як вядома, працуюць у структуры "фірмы Фінберга") падрыхтавалі новыя праграмы.

У выкананні Актэта прагучалі аранжыраваныя Генадзем Гедыльтарам пераважна танцавальныя творы знаных нашых землякоў Напалеона Орды і Восіпа Казлоўскага.

Прыгожая прэм'ера вянчала фестываль: аранжыроўшчык Андрэй Шлянёў перастварыў для Камернага аркестра славутыя вальсы Фрэдэрыка Шапэна! Асоба геніяльнага польскага кампазітара ў кантэксце беларускага фэсту невыпадковая, бо неадлучная ад жыцця і нашых землякоў, творцаў, найперш Напалеона Орды, Адама Міцкевіча... І зусім арганічна музыка Шапэна была ўрэшце, пры канцы вечара, падхоплена неўміручай мелодыяй яго, як лічаць, "прадзечы" — Міхала Клеафаса Агінскага.

Сентыментальная песня без слоў, паланез "Развітанне з радзімай", адгучаўшы ў аркестры, не змаўкаў яшчэ доўга з дынамікаў над прыступкамі Цэнтра культуры, — аж пакуль не згаслі апошнія іскры традыцыйнага фестывальнага феерверка.

Думаю, дружа, што ў цябе хапіла цярплівасці агораць сумбурны змест маіх паштовак і зрабіць простую выснову: дзякуй Богу, што ёсць у нас такі фестываль! І дзякуй людзям, якія падтрымліваюць яго, імкнуцца разнастаіць, удасканаліць, забяспечыць не толькі высокі ўзровень мастацкіх праграм, але і высокую культуру фестывальнага побыту. Ты не стаміўся ад шматлікіх прозвішчаў? Я ўсё ж іх спіс папоўню: Леў Бажко, Ніна Мончыш — сапраўдная апірышча ў вырашэнні арганізацыйных праблем. "Сонечны" мастак-пастаноўшчык Веніямін Маршак...



*Заслужаны артыст Беларусі Валеры САРОКА.*



*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя М. Кл. Агінскага Раман ШЫМАНЕЦ.*

А што да мастацкага кіраўніка фестывалю Міхала Фінберга, дык ён... хітрун! Хітруе, калі кажа, што тры дні ў Нясвіжы — гэта адзіны кароткі час за ўвесь год, калі ён адпачывае. Вядома ж, ён тут не рэпеціруе, не выходзіць з аркестрам на сцэну. Але ж — не адпачывае. Турбуецца! Паўсюль бывае, усё і ўсіх слухае. Захапляецца. Радуецца. Перажывае. Мяркуе. І нават за снеданкам разважае пра тое, якім трэба рабіць наступны фестываль. Каб сустрэча з "Музамі Нясвіжа" кожны год была чакана-нечаканай. Што да мяне — яно ўжо так і ёсць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Жорсткае слова "Sühnezeichen"

## НА ФОРУМЕ Ў БЕРЛІНЕ

1

Не бяруся высноўваць, добра гэта ці не дужа, але чалавечае ўспрыманне хутка, часам надзвя хутка, звыкаецца са з'явамі, яшчэ ўчора-заўчора для яго фантазійнымі. "Манілаўшчына!" — адказаў бы я гадоў пятнаццаць таму, калі б пачуў ад каго, што пракоціцца колькі быстрых зім-летаў, і для беларусаў буднымі, абсалютна не дзіўнымі стануць неверагодныя, тады здавалася, факты. Кшталту, што ў бальніцах Мінска ў палатах для асабліва цяжкіх хворых будуць цярпліва і ўважліва санітарыць дабрачынцы з Германіі. Што, паколькі германскім законам аб воінскай павіннасці прызыўнікам, якія паводле маральных перакананняў не жадаюць браць у рукі зброю, абавязак паслужыць у бундэсверы дазваляецца замяняць на альтэрнатыўную грамадзянскую службу, досыць многа нямецкіх юнакоў, такіх альтэрнатыўнікаў, пачнуць прыязджаць на тэрмін армейства ў Беларусь — працаваць у інтэрнатах і садках для дзяцей з дэфектамі фізічнага і разумовага развіцця. Што ў месяцы летніх канікулаў з Нямеччыны памкнецца да нас нямала студэнтаў і школьнікаў будаваць на Беларусі вёскі і храмы. Што ў аздараўленчыя лагеры па-над Рэйнам і Майнам будзе ездзіць лекавацца шмат беларускай дзятвы, якая мае ў тым патрэбу...

Манілаўшчынай і толькі, паўтараю, яшчэ не вельмі даўно я б палічыў гаворку пра магчымасць падобнага. Але на сёння яны для нас ява, гэткія немагчымыя, на нядаўні погляд, факты. Брэменцы ды гановерцы муляраць-цяслярацы бліз Нарачы на будоўлях вёсак для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Маладыя пацыфісты, што адмовіліся ісці ў бундэсвераўскія казармы, нянчаць маленькіх інвалідаў у мінскіх скрушных прытулках. Немцы-санітары шчыруюць у беларускіх бальніцах. Апошнія гады я неаднойчы гасцяваў у Германіі. Як жа прыемна з кожным разам усё болей сустракаць там людзей, знаёмства з якімі пачыналася ў Мінску, калі іх прыводзіла ў наш край выкананне дабрачыннай місіі.

Гэтая місія, на маршрутах якой тысячы немцаў зрабіліся зычлівцамі і сябрамі Беларусі, — шырокі ў Германіі рух пакаяння за ўчыненае ад імя нямецкага народа нацыстамі.

30 красавіка 1958 года аўтарытэтны ў абедзвюх тадышніх нямецкіх дзяржавах — ФРГ і ГДР — царкоўны дзеяч Лотар Крайсіг звярнуўся на сінадальным зборы Евангелічнай царквы да суайчыннікаў з адозвай, камертонам якой былі словы: "Мы, немцы, пачалі Другую сусветную вайну і ўжо тым самым больш чым хто іншы вінаватыя ў невымерных людскіх пакутах". Крайсіга шануюць цяпер у Германіі як прарока прымірэння: ад той адозвы бярэ пачатак існаванне арганізацыі, што назвала сябе Акцыяй збавення праз пакаянне — службы міру. Арганізацыі, дзейнасць якой ужо чатыры дзесяцігоддзі горача падтрымліваецца царквой, інтэлігенцыяй, моладдзю. Актывістаў-валанцёраў якой пры здзяйсненні імі гэткай, як і ў нас на Беларусі, місіі дзейнай дабрыні можна спаткаць ва ўсіх краінах Еўропы, у Амерыцы, у Ізраілі, у розных кутках планеты.

З 30 красавіка па 3 мая ў Берліне святкавалася 40-годдзе гэтай арганізацыі. На ўдзел ва ўрачыстасцях запрошана было многа зарубежных гасцей, у тым ліку сябры арганізацыі з Беларусі. Разам з колішнімі вязнямі мінскага гета Маяй Крапіннай і Ганнай Краснапёркай, былой пакутніцай Асвенціма Верай Смірновай, галоўным урачом мінскага Дома дзіцяці Тамарай Мурашовай, псіхолагам з рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі і гематалогіі Тамарай Вашкевіч, прадстаўніцай кіраўніцтва фонду "Дзеці Чарнобыля" Ірынай Грушавой, вядомым мінскім святаром айцом Ігарам, іншымі паважанымі людзьмі запрашэнне атрымаў і я.

2

Па-нямецку арганізацыя-юбілярка называецца "Sühnezeichen" — "зюнэцайхен". Што ў перакладзе значыць "знак выкуплення". Ці дазволю сабе больш дакладны, пазбаўлены двучытання беларускага "выкуплення" рускамоўны эквівалент — "знак искупления".

Епіскап з Гамбурга Марыя Іепсен (у пратэстанцкай царкве іерархам усіх ступеняў можа быць жанчына), выступаючы на першай віншавальнай імпрэзе, зазначыла, што слова "Sühne", "выкупленне" — у дадзеным выпадку цяжкое, жорсткае. Але добра, што ў назве арганізацыі яно захоўваецца, не замяняецца лягчэйшым, больш дыпламатычным — "даверам", "узаемаразуменнем", іншым з гэтага рада. Бо горыч за чорнае і ганебнае ў мінулым радзімы павінна не слабець і ў пакаленнях немцаў, што нарадзіліся і нараджаюцца пасля жахаў распаленага ў свеце гітлераўскім рэйхам апакаліпсічнага ліхалецця.

Важнасць гэтага фактару для сённяшняга і заўтрашняга дня Германіі акцэнтавалася на форуме не ў адной прамове. Але найперш дабразнакава, што яе прадэкларавалі, сустракаючыся з удзельнікамі святкавання, федэральны прэзідэнт Раман Херцаг. Рослы, белагаловы, светлавокі, з моцнай у поціску рукой, ён нагадвае абліччам — так мне ва ўсякім разе, падалося — разумнага, пашнотнага ў парафіі вясковага пастара. Сустрэчай з ім пачата была праграма трохдзённага фэсту. Яго вуснамі як бы сама дзяржава проста і сцісла заявіла сур'ёзнае і важнае.

Сказана было, што немцы зрабілі б вельмі няправільны крок, калі б замоўчвалі нядаўні змрочны перыяд айчыннай гісторыі, хаваліся ад яго, адракаліся. Германія назвала віну сваім імем і ўзяла на сябе за яе адказнасць.

Сказана было, што дзяржаўнай і грамадскай мэтай, прытым не адной Германіі, павінна быць не толькі ўсталяванне нармальнага ўрадавага і парламенцкага супрацоўніцтва краін, у мінулым раздзеленых лютым ваенным, пазней палітычным процістаяннем. Трэба імкнуцца, каб знікла — чаго дасягнуць, відома, цяжэй — непрыязнасць паміж народамі, паміж простымі грамадзянамі гэтых краін.

Сорак гадоў назад у адозве, якой Акцыя абвясціла аб сваім нараджэнні, канстатавалася: "У сваім кашчунным паўстанні супроць Бога немцы загубілі мільёны яўрэяў. Калі нямала хто з нас, што засталіся жывымі, гэтага і не жадаў, мы зрабілі недастаткова, каб яго не дапусціць". Рэха Халакоста, трагедыі яўрэйства ў часіну жудаснага грукату фашысцкіх ботаў па Германіі і па акупаваных ёю прасцягах Еўропы, стаўленне арганізацыі да смертнікаў, якім цудам пашчасціла не загінуць у лагерах знішчэння яўрэяў ці неяк выратацца з гета, была, бадай, галоўная тэма ўсяго, што ў фэставыя дні адбывалася пад спічакамі кірхі Святога Крыжа, цэнтральнага месца ўрачыстасцей.

У бядотным, што абрынула на свет катастрофа ў Чарнобылі, нямецкай віны няма. Не вызначыць, відома, меры гора, якое прынесла Беларусі фашысцкае нашэсце, але не яно праз гады і гады, у сярэдзіне васьмідзесятых, спрычыніла смертаносную радыяцыйную хмару над разлогамі нашага краю. Аднак гэтая германская арганізацыя, вышэй сказана ўжо, трымае ў полі вялікай спагаднай увагі і беларускую постчарнобыльскую злыбедзь. Што таксама было на форуме тэмай гаворкі пры абмене думкамі на пасяджэннях. Тэмай, у прыватнасці, эмацыйнай прамовы Ірыны Грушавой. Тэмай дасціпнага слова аб кантактаванні з валанцёрамі Акцыі айца Ігара.

У дні, калі праходзіў форум, дэмакратыя Германіі была ўстрывожана вынікамі выбараў у ландтаг зямлі Саксонія-Анхальт. Трынаццаць працэнтаў месц у зямельным парламенце занялі дэпутаты ад Нямецкага народнага саюза — ультраправай неанацысцкай партыі. Такога поспеху на выбарах нацыяналісты фашысцкай арыентацыі ў новай Германіі ніколі не дасягалі. Выбаршчыкі Саксоніі-Анхальт адплацілі ўладнай партыі хрысціянскіх дэмакратаў — партыі канцлера Коля — за рост у краіне беспрацоўя, за невырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем.

Немцы — удзельнікі форуму больш, як хто іншы з суайчыннікаў, ведаюць урокі гісторыі. Трымаюць у памяці, што і Гітлера ўзнеслі калісьці ў канцлеры галасы радавых выбаршчыкаў — знявераных, замардаваных бязладдзем у эканоміцы, расчараваных беззапаможнасцю вярхоў. І з трыбуны ў сценах кірхі Святога Крыжа не ў адной прамове гучала: сітуацыя ў Саксоніі-Анхальт насцярожліва пераклікаецца з атмасферай па ўсёй Германіі на пачатку чорнапамятных трыццатых. Вынікі тамтэйшых выбараў — сігнал, да якога дэмакратыі нельга быць абыякавай.

Шырокая амплітуда пытанняў закранадася форумам...

3

Зразумела, для нас, запрашэнцаў з Беларусі, вельмі чаканым было абвешчанае праграмай выступленне Васіля Быкава (ён прыехаў не з Мінска, як усе мы, а з Швецыі). Цяпер, на пэўнай часавай адлегласці аднаўляючы выступленне ў памяці, магу сказаць, што яно зрабіла ўражанне — ва ўсякім разе, на мяне — ці не найбольш "храмавага" з прагучалых на працягу тых дзён у прасторы аднаго з самых велічных берлінскіх лютэранскіх храмаў.

"Я з Беларусі і гаварыць буду па-беларуску", — папярэдзіў Васіль Уладзіміравіч, пачынаючы. Але ў моўленай па-беларуску прамове (Алена Прэнц, выпускніца Мінскага лінгвістычнага універсітэта, якая жыве цяпер у Берліне, віртуозна і дакладна яе адразу перакладала) Беларусь ні разу не была названа. Зместам і характарам сказанае сусветнавядомым сынам Беларусі выглядала (прынамсі, паўтараю, успрымалася мною) ярка амбоннай пропаведдзю з агульначалавечым адрасам звароту.

Чалавек нараджаецца, сказана было, свабодным — у несвабоднага вырастае ва ўмовах існавання ў нашым далёкім ад ідэальнага свеце. Несвабодны, залежны ад іншай волі, часта нядобрай, нават сатанінскай, ён перастае адчуваць адказнасць перад сабой, перад незычлівым вакольным светам, перад Богам. Вяртанне ж да Бога, ачышчэнне, духоўная свабода мажлівыя тады, калі наспявае ўнутраная неабходнасць пакаяння.

Біблія гаворыць: няма ні эліна, ні іудзея — ёсць чалавек, вышэйшае стварэнне Госпада. Найпершая ўмова ўзаемапаважлівага суіснавання рас, нацый, культур і цывілізацый, палітычных і сацыяльных сістэм — спавяданне гэтага пастулата. Рэалізаваць жа практычна роўнасць народаў перад Богам можа толькі нязрушная вернасць чалавечай супольнасці дэмакратыі.

Слаўная арганізацыя "Зюнэцайхен", лічыць Быкаў, цудоўна гэты прынцып ажыццяўляе, трымаецца мудрага хрысціянскага запавету: той з намі, хто не супраць нас. Запавету, цяпер не менш актуальнага, чым дзве тысячы гадоў назад, калі ён быў пачуты і прыняты першымі хрысціянамі. Ёсць надзея, што стане ён галоўным маральным імператывам у сучасным фатальна разрозненым у шмат якіх адносінах свеце.

Паўтараю: слова "Беларусь" ні разу ў прамове не прагучала. Тым не менш нам, хто прыехаў у Берлін з краіны, што Быкаву бацькаўшчынай, ды не толькі, упэўнены, нам, было зразумела: гаварыў ён і пра Беларусь. Можа, нават у першую чаргу пра Беларусь.

Старшыняваў на першым пасяджэнні форуму, калі Быкаў узнімаўся да трыбуннага мікрафона, прафесар Франц фон Хамерштайн, асоба ў Германіі найпаважаная, галава грамадскага фонду заходне-ўсходніх стасункаў. Падзякаваўшы прамоўцу, ён палічыў патрэбным заўважыць, што сказанае пісьменнікам — безумоўна, працяг таго, што чытаецца ў напісаных ім выдатных кнігах.

4

Слухаў Хамерштайна, пачціва ўглядаўся ў яго прыгожую арыстакратычную постаць — і звяном да звяна выстройваўся ўва мне асацыятыўны ланцужок згадак.

Ён неаднойчы бываў у Мінску, Хамерштайн. Неяк папрасіў маю жонку Ганну Краснапёрку і мяне, каб паказалі яму мясціны, чорна помныя гораду з вайны. Пры гітлераўскім рэжыме палітычны вязень, канцлагернік, ён надзвычай чуйны паўсюль да слядоў злачынстваў гітлерызму. Просьбу мы выканалі, паездзілі з ім, пакуль ён, усё-такі вельмі немалады ўжо, не стаміўся. Калі ж потым, адпачываючы за столікам з кавай, ён сёетое нам пра сябе расказаў, мяне сярод іншага ў пачутым зацікавіла, што наш суразмоўца быў блізкі з Марцінам Німёлерам. З легендарным цяпер у Германіі евангелічным пастарам, які ў час, калі з прычыны ўзыходу Гітлера на ўладны алімп у краіне грымелі медныя трубы, назваў сутнасць нацызму антыхрысціянскай, асудзіў антысемітызм, узначаліў апазіцыйную рэжыму так званую "спавядальную царкву". З прачытанага незадоўга перад тым дзённіка Гебельса мне помніўся злосна-шыплівы запіс галоўнага нацысцкага ідэолага: "Пастар Німёлер нарэшце пасаджаны. Атрымае такі прысуд, што ўваччу стане цёмна... Толькі так можна яго суцішыць". Хамерштайна з Німёлерам звёў катаржанскі лёс — знаёмства і збліжэнне ў канцлагерным бараку. Ацалелыя ў апраметнай абодва набылі пасля краху нацызму вядомасць відных грамадскіх дзеячаў-антыфашыстаў.

Бачачы Хамерштайна на форуме, слухаючы яго, я не мог не згадаць тую размову з ім пасля паклону пакутам і героіцы ваеннага Мінска. А следам у памяці паўстала — атмасфера форуму таму спрыяла — сфармуляванае Німёлерам пасля ўсяго перажытага выслоўе. Па-біблейску прытчавае, яно цяпер вядомае ў Германіі мільёнам людзей. Быўшы ў Вашынгтоне, я згледзеў яго выбітым на бронзе ў музеі Халакоста і, ураджаны, перапісаў:

"Спачатку яны прыйшлі па сацыялістаў. Я нічога не сказаў, бо я не быў сацыялістам.

Потым яны прыйшлі па прафсаюзных дзеячаў. Я нічога не сказаў, бо я не быў прафсаюзным дзеячам.

Потым яны прыйшлі па яўрэяў. Я нічога не сказаў, бо я не быў яўрэем.

Потым яны прыйшлі па мяне — і ніхто нічога не сказаў..."

Сцены кірхі Святога Крыжа знутры — сама аскеза: ніякага роспісу, ніякай лепкі. Як і належыць у пратэстанцкім храме. На галізне сцен тут адзіная мастацкая аздоба — скульптурны трыпціх "Хрыстос у Халакосце", праз таго ж Хамерштайна перададзены ў дарунак кірсе англійскім скульптарам Ісмандам Розенам. Створаная ў далёкай ад рэалізму манеры, сімвал пры сімвале, кампазіцыя крыкам крычыць аб звар'яцеласці свету, у якім магчымыя фашызм, Халакост, Чарнобыль.

Адкрытае вачам і хвалюючае ў схованах памяці было на форуме вельмі пераплецена. Што і абумовіла падзеі, дзеля якой мы прыехалі ў Берлін, шчымлівую вышыню і папераджальны пафас.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# Дзень музея ў Купалавым Доме

18 мая ўжо колькі год як адзначаецца Міжнародны дзень музея. У святочны для ўсіх музейшчыкаў дзень у музей Янкі Купалы завітаў выкладчык кафедры этналогіі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры, дацэнт Алег Трусаў. Школьнікам і студэнтам ён распавёў пра гісторыю ўзнікнення музеяў у свеце, у Беларусі, пра іх калекцыі, страты і набыткі, сённяшнія клопаты. Падрабязней затрымаўся А. Трусаў на зборах Радзівілаў у Нясвіжы, музеі старажытнасцяў братоў Тышкевічаў у Лагойску і Вільні, Віленскім беларускім музеі імя І. Луцкевіча, прыватным музеі ў Дудутках.

Вучоны сакратар музея Я. Купалы паэт Сяргей Панізнік зрабіў акцэнт на невялікіх музеях у т. зв. правінцыі, прыватных калекцыях, закрануў праблему гістарычнай памяці, заклікаючы моладзь складаць свае радаводы, не забывацца на продкаў.

Пасля прысутныя былі запрошаны на выставу "Дарчыя аўтографы Янкі Купалы", якая адкрылася спецыяльна да Міжнароднага дня музеяў. На кнігах, фотаздымках паэта з фондаў музея наведвальнікі маглі пабачыць дарчыя надпісы песняра пісьменнікам, дзеячам мастацтваў, знаёмым, усім тым, каго ён паважаў, любіў і якія паважалі яго (У. Самойлу, А. Луцкевічу, Л. Сеўруку, П. Мядзёлцы, К. Буйле, В. Брусаву, К. Елісееву і інш.).

Акрамя таго, да ўвагі наведвальнікаў былі прадстаўлены выставы "Неўміручая Паўлінка" (да 85-годдзя сцэнічнага жыцця п'есы Я. Купалы "Паўлінка") і "Кахаю... Люблю. Беларускаму краю бясконца я слова "люблю" паўтараю" (прысвечаная юбілею Д. Бічэль-Загнетавай).

**Эдвард КАРБАНОВІЧ**

## Уладзімір Савіч — у Светлагорску

**Творы гэтага мастака знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Рэспубліканскай галерэі, нацыянальнага мастацкага музея Літвы, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, дырэкцыі выстаў СМ Расіі, галерэй Фінляндыі і Славакіі, у прыватных зборах Аўстрыі, Германіі, ЗША, Італіі, Бельгіі, Швейцарыі, Нарвегіі, Японіі, Грэцыі...**

**І ці трэба гаварыць аб тым, з якім нецярпеннем светлагорскія аматары выяўленчага мастацтва чакалі адкрыцця ягонай выставы ў нашай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава. А прыехаў у Светлагорск Уладзімір Пятровіч разам з акадэмікам жывапісу Уладзімірам Зінкевічам, мастачкай Валянцінай Сідаравай, са шматлікімі сябрамі.**

**У гонар шаноўнага госця спявала Вольга Бурак, якая ўжо неаднойчы радавала сваёй творчасцю аматараў выяўленчага мастацтва. Са словамі ўдзячнасці да Уладзіміра Савіча звярнуліся старшыня гарадскога і раённага выканаўчых камітэтаў Б. Пірштук і У. Палынь, мэр англійскай акругі Мэндзіп спадар Грэм Джэфс, упраўляючы аддзялення "Прамбудбанка" С. Панкавец і іншыя.**

**16 карцін прадстаўлены ў светлагорскай экспазіцыі Уладзіміра Пятровіча. Мастак вельмі натуральна, таленавіта аб'яднаў магчымасці акварэлі, гуашы, тэмперы, акрылу, друкарскіх фарбаў, калажу. Ён шмат эксперыментуе. Зрэшты, гэта нешта значна большае, чым эксперымент. Гэта свядомы альбо інтуітыўны шлях праз вольную стыхію каляровых спалучэнняў — да жывапісу.**

**Жывапіс гэтага мастака — ужо сам па сабе тэма. Сутнасць яго карцін тоіцца ў філасофскім асэнсаванні бачанага і прадчуваемага. Нават самі назвы твораў, што называецца, гавораць за сябе. Вось некаторыя з іх: "Нябесныя знакі", "Згубленае свята", "Актыўная прастора", "Малітва язычніка", "Нараджэнне духаў", "Зона бачнасці", "Вяртанне да ранейшай сустрэчы". Напісаць настрой, розум, цішыню, затоенасць — заўжды было і застаецца звышзадачай для сапраўднага мастака Уладзіміру Савічу гэта часта ўдаецца.**

**Творчы лёс Уладзіміра Савіча можна з усёй абгрунтаванасцю лічыць шчаслівым. Ужо дыпломная работа гэтага мастака-афармлене кнігі Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта" — адзначана Дыпломам Акадэміі мастацтваў СССР. Было гэта ў 1976 годзе. Але яшчэ раней, у студэнцкія часы ён бярэ ўдзел у мастацкіх выставах на Беларусі і за яе межамі. У 1986 годзе яму ўручаюць "Дыплом Францыска Скарыны" і "Дыплом Івана Фёдарава". Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне выяўленчага мастацтва, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь. І яшчэ адзін даволі рэдкасны факт: "Уладзімір Савіч амаль адначасова прызнаны інтэрнацыянальным Біяграфічным Цэнтрам "Чалавекам года", узнагароджаны медалём "За дасягненні ў XX стагоддзі" (Кембрыдж, Англія) і прэміяй "Чалавек года" ў намінацыі "Выяўленчае мастацтва" ў сябе на радзіме, у Мінску. Дадайце сюды тое, што ён прафесар графікі Беларускай акадэміі мастацтваў, віцэ-прэзідэнт БАВМ.**

**І тым больш прыемна было пачуць словы ўдзячнасці нашага шаноўнага госця за магчымасць паказаць свае творы ў нашай карціннай галерэі, дзе выстаўляліся народныя мастакі Беларусі Гаўрыіл Вашчанка, Леанід Шчамялёў, акадэмікі жывапісу і графікі Уладзімір Зінкевіч, Віктар Альшэўскі, Валерый Славук, Уладзімір Вішнеўскі, Анатоль Бараноўскі, Нінэль Шчасная і іншыя.**

**Выстава твораў Уладзіміра Савіча — сапраўдная падзея ў культурным жыцці Светлагорска.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

## Рана пайшоў з жыцця...

**У няпоўныя сорак два гады пайшоў з жыцця драматург Іван Козел (памёр 30 студзеня 1970 года), з дня нараджэння якога спаўняецца 70 гадоў. Іван Васільевіч родам з вёскі Канчаны Маладзечанскага раёна. Скончыў Маладзечанскую сярэднюю школу N 1 імя Я. Купалы, настаўнічаў, у 1955 годзе завочна атрымаў вышэйшую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, рэдактарам Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, потым старшым рэдактарам Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. У 1969 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.**

**Шырокую вядомасць І. Козелу прынесла п'еса "Папараць-кветка" (пастаўлена ў 1957 годзе). Другая "Канчане — мае суседзі" была пастаўлена ў 1961 годзе пад назвай "Над хвалямі Серабранкі".**

ДУША

Кс. Уладзіслаў Завальнюк

Любоў Уладыкоўская-Канаплянік

# Прыйшлі, каб служыць

*На небе зоры, як каралі,*
*Але ёсць космас і ўнутры.*
*Праз церні да вяршынь маралі*
*нас правядуць павадыры.*

Змянялася надвор'е, спрачаліся палітыкі, газеты пісалі пра эканамічныя падзеі, а душа прасіла высокага. Чысціні. Святла. Палёту. Свабоды. Любові. Таго, што застаецца.

Чырвоны касцёл — побач. Чырвоны — не таму, што з цэглы такога колеру. Чырвоны — бо тут заўжды бурліць жыццё: нястрымна вядзецца рэстаўрацыйная праца ўнутры і знадворку храма, сотні людзей наведваюць мастацкую выставу, экспазіцыі якой выстаўляюцца ў Дольнай зале, прыходзяць, каб стаць удзячнымі гледачамі тэатра аднаго акцёра "Зніч", мастацкі кіраўнік якога — Галіна Дзягілева, ці разам са студэнтамі Беларускага універсітэта культуры і іх куратарам Наталляй Міцкевіч тварыць духоўны тэатр для дзяцей і моладзі "Анёл". Людзі прыходзяць у святыню, каб паслухаць дзіцячы хор "Голас душы", разнастайныя духоўныя канцэрты. Суполка моладзі "Святло жыцця", "Хрысціянскае таварыства міласэрнасці", плануемае адкрыццё бібліятэкі — усё гэта пры Чырвоным касцёле. Адраджаецца разнастайнасць духоўнага жыцця і ў іншых касцёлах на Беларусі.

Напэўна, парадаваўся б Эдвард Вайніловіч, 150-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем сёлета, — той Вайніловіч з багатага знакамітага беларускага шляхецкага роду, які на памяць аб сваіх заўчасна памерлых дзецях Сымону і Алене вырашыў пабудаваць касцёл, — калі б пабачыў, як пасля драматычных для святыні падзей тая ўсё ж здолела падняцца і падымае цяпер людзей, вяртае ім спрадвечныя традыцыі, выпрацаваны, назапашаны стагоддзямі светапогляд продкаў, уплецены ў жывую тканіну народнага быцця.

Беларусы заўсёды асабліва шанавалі людзей, непарыўна звязаных з рэлігіяй, асветай, літаратурай, духоўным жыццём: Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сымона Полацкага, Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Якуба Коласа...

Хрысціянства, з'яўляючыся адным з асноўных культурна-гістарычных чыннікаў на Беларусі, ёсць спосаб духоўнага і сацыяльнага яднання людзей. Невыпадкова ў храмах знікае тое, у чым людзі супрацьпастаўляюцца: палітычныя перакананні, асабістыя інтарэсы, сямейныя канфлікты, — усё часовае, пераходнае. У касцёле чалавек супакойваецца, праз споведзь — ачышчаецца, праз пакаянне — удасканальваецца, праз малітву — асвячэнне духу — узносіцца да Бога, яднаецца з ім і ўсімі людзьмі. Грэх падзяляе людзей, духоўная, душэўная чысціня — яднае. Імкнучыся да Бога, мы імкнёмся да еднасці — не раўнуючы, як тыя спіцы ў коле, што імкнуцца да восі. Невыпадкова закон свету гэтага, у значнай ступені грэшнага, — "падзяляй і валадар". Храм жа — месца сустрэч многіх людзей у настроі духоўным, з устаноўкай на духоўнае. А духоўнае яднанне вядзе да яднання сацыяльнага.

Хрысціянства ўзвышае асобу чалавека, накіроўвае яго на рэалізацыю сваіх лепшых здольнасцяў і перакананняў. Чалавек, які мае цесную сувязь з Богам, заўсёды ярка выяўляе сваю непаўторнасць, індывідуальнасць, свой творчы патэнцыял.

Роля духоўнай асобы, вельмі важная сёння, калі так неабходна падтрымаць у нашым народзе веру ў сябе, сваю ўнутраную сілу, захаваць стабільную сістэму маральных каардынатаў.

Ёсць Царква Нябесная, а ёсць зямная, але людзі хочуць бачыць у апошняй - праявы першай, людзі схільныя са святара рабіць куміра. Хрысціянскі святар — прыклад і ўзор, пункт адліку чалавечай сумленнасці не толькі для сваіх духоўных дзяцей. Любому верніку чалавечыя слабасці, скажам, ксяндза не перашкаджаюць з благагавейным трымценнем прымаць з ксяндзовых рук аплатку — Божае Цела, слухаць, як Голас Божы, ксяндзовыя павучанні і г.д. — гэта значыць, успрымаць ксяндза, як пасрэдніка паміж Богам і чалавекам падчас Святой Імшы, калі святар сваёй добрай воляй служыць хіба толькі інструментам выявы Божай Ласкі. Тым не менш, нават чалавек глыбокай веры хацеў бы, каб яго духоўны пастыр не ўступаў яму ні па душэўных якасцях, ні па інтэлектуальным узроўні, ні па чым іншым. Такая, відаць, чалавечая прырода: навучацца ў таго, хто лепшы за цябе. І калі чалавечыя недахопы святара больш памяркоўна ўспрымаюцца інтэлігенцыяй, якая больш патрабуе і больш чакае, але разам з тым і больш разумее, апраўдвае і даруе, то людскі натоўп бывае жорсткім і бязлітасным, часта Божыя запаветы трактуе спрошчана, літаральна.

Зразумела, вера і веды, інтэлект суадносяцца гэтаксама, як рэлігія і навука: першая прасвятляе сэнс чалавечага жыцця, быцця ўвогуле, другая аналізуе і вывучае іх канкрэтныя праявы. Глыбокія веды ўзмацняюць веру і паглыбляюць яе. Вера саграе інтэлект, надае яму маральны характар. Розум без веры мёртвы. Менавіта таму неабходна, каб святар, навучаючы духоўна, улічваў інтэлектуальныя запатрабаванні асобы і адпавядаў ім.



Калі вучэнне Хрыста — не мёртвая догма, якая скоўвае і ўсяляк абмяжоўвае асобу, то кожны хрысціянскі святар мусіць сам быць асобай шматграннай, рознабаковай. Каб зразумець і даць параду чалавеку, трэба здолець змясціць у сабе перажыванні, пачуцці, думкі, памкненні людзей, розных па сваіх перакананнях, разуменні жыцця і свайго месца ў ім, умець увабраць у сябе светапогляд кожнай асобы. Гэта патрабуе таленту і велізарнай унутранай работы.

Важна, што душпастырства — асноўная функцыя святарства - падразумявае творчы падыход святара да кожнай канкрэтнай жыццёвай сітуацыі, бо вымагае яго ўмення практычна спраўджваць у неадназначных умовах чалавечага жыцця і сацыяльнага быцця хрысціянскія запаветы. Творчасць ксяндза мусіць развівацца не толькі праз асветную, культурную, грамадскую дзейнасць, у якой могуць значна дапамагаць і свецкія асобы. Нават у працэсе Святой Імшы, якая кожны раз нагадвае пра пакутніцкую смерць Хрыста дзеля збавення чалавечага роду, выяўляецца ўласны почырк, стыль, асоба святара. Ужо ў казаннях — у адрозненне ад літургічнай часткі, дагматычна,кананічна рэгламентаванай, замацаванай стагоддзямі, традыцыйнай — патрабуецца ад ксяндза не толькі тлумачэнне Евангелля, увядзенне яго ў сучасны кантэкст і гэткім чынам умацаванне веры, але веданне надзённых духоўных (парадокс, бо духоўнае — вечнае) патрэб, людскіх праблем. Ксяндзу неабходна ўмець данесці да людзей, што фактычна ўсе з'явы і падзеі ў чалавечым жыцці падпарадкаваны як волі Божай, так і свабоднай волі самога чалавека. Казанне павінна накіроўваць думкі, імкненні чалавека ў хрысціянскае рэчышча, дапамагчы верніку знайсці аптымальнае рашэнне ў той ці іншай жыццёвай сітуацыі.

На сённяшні дзень існуе толькі адна хрысціянская радыёперадача, якая транслюецца падчас Святой Імшы. Гэта — "Голас душы", што выходзіць у эфір з 11 верасня 1993 г. штотыднёва на працягу паўгадзіны. За гэты час павінна абавязкова гучаць літургічная частка, а за нейкія 7—10 хвілін, што адводзяцца на казанне, святар мусіць сваім словам суцешыць пакрыўджаных, узмацніць духам хворых і слабых, навучыць кожнага жыць і паводзіць сябе ў адпаведнасці з хрысціянскімі прынцыпамі. Важна, каб ксёндз улічваў духоўныя патрэбы ці не кожнага чалавека, які слухае гэтую радыёперадачу, даў псіхалагічную хрысціянскую ўстаноўку ва ўмовах, калі амаль на кожным кроку чалавека падсцерагаюць розныя спакусы, стрэсавыя сітуацыі.

І гэтая праблема ў прынцыпе вырашальная, бо хрысціянскае вучэнне тым і моцнае, што кожная чалавечая душа знаходзіць у ім адказ на найбольш хвалюючае ўласнае пытанне.

Як вядома, пераканаць, данесці да чалавека штосьці мы можам толькі тады, калі абапіраемся на яго перакананні, выкарыстоўваем яго сістэму каардынат, гаворым на яго мове. Тады не ўзнікае псіхалагічнага эфекту адчужэння, непрымання, адштурхоўвання. Вось чаму святар можа дапамагчы любому з нас адшукаць, напрыклад, у асобе Хрыста найбольш блізкае нам, прызнаць і палюбіць Яго яшчэ і за гэта.

Сапраўды, шматграннасць і універсальнасць хрысціянства дазваляюць яму быць засвоеным і прынятым кожным чалавекам у даступнай яму форме, але, каб гэта ажыццявілася, хрысціянскі святар павінен валодаць пэўным узроўнем агульнакультурнай падрыхтаванасці, адукаванасці, красамоўства, творчым падыходам да жыцця ў цэлым.

Каб жа здолець адказаць не толькі на канкрэтныя жыццёвыя пытанні, але на філасофскія, багаслоўскія, адказаў на якія чакае інтэлігенцыя, а таксама навучыць чалавека самастойна арыентавацца ў жыцці, самастойна прымаць рашэнні, трэба таму ж ксяндзу быць самому творчым чалавекам, які бесупынна вучыцца сам. Бо хіба ў адваротным выпадку мы дачакаемся, каб наша эліта (інтэлектуальная, палітычная і інш.) паўней, шырэй, хутчэй павярнулася да хрысціянскай веры? А менавіта ад эліты найперш залежыць лёс нашай нацыі. І — хто ведае — можа, там, дзе людская воля ўжо нічога не можа змяніць, уратуе Божы Промысел? Патрэбная толькі вера. Яна дае моц і мудрасць. Яна робіць нашы ўчынкі лагічнымі, сумленнымі і плённымі.

Вялікая ўлада даецца святарам. Велізарная адказнасць ляжыць на іх плячах.

Думаецца, што ўсё ж галоўнае для святара — не яго грамадская актыўнасць, культурніцкая місія, хаця і гэта вельмі важна ў выхаванні людзей, іх духоўным жыцці,

духоўным жыцці народа, але найперш — маральнасная аснова. Спектакль можна паглядзець у тэатры, патрыятычным выхаваннем нібыта займаюцца спецыяльна створаныя дзяржаўныя структуры, але хто, дзе на першы план выводзіць мараль, маральнасць, сумленне, дух?

У першую чаргу для святара павінна быць важнай яго душпастырская місія, г.зн. выратаванне душ людскіх і, натуральна, сваёй. Душпастырства — асноўная функцыя і галоўны абавязак святара, які заключаецца ў выхаванні і навучанні людзей у хрысціянскіх прынцыпах, што дадзены нам праз Святое Пісанне, найперш у 10 Божых Запаветах, у Нагорнай пропаведзі. Фактычна ў любы момант свайго жыцця ксёндз абавязаны быць душпастырам, г. зн. амаль падсвядома памятаць пра неабходнасць быць прыкладам, узорам сапраўднага хрысціяніна і гэтым даказаць, што хрысціянскі ідэал чалавека ў прынцыпе дасягальны, што наблізэнне да ідэалу — Богачалавека — магчымае. Гэта не менш актуальна, чым навучаць людзей праз казанні, дакладна выконваць разам з вернікамі цыклы літургічнага года і г.д.

Зразумела, што любы святар — такі ж слабы, грэшны чалавек, як і кожны з нас, і гэтаксама чакае спагады, разумення, духоўнай падтрымкі і малітвы.

Галоўная задача хрысціянства (і канчатковая мэта чалавека) — не прапаганда сябе самога, не адраджэнне і развіццё нацыянальных традыцый, не выхаванне патрыятычных пачуццяў (было б крайне неразумным аспрэчваць значэнне ўсяго названага і шмат чаго іншага), а ўсё ж пашырэнне чалавечай свядомасці, паглыбленне і ўзвышэнне духу, развіццё праяў духу ў чалавеку, яго жыцці, у навакольным свеце. Божы дух выяўляецца ў маральнасці, сумленні. Духоўны парадак у сумленні чалавека ў гармоніі з адвечным Божым вядзе да маральнага парадку ў адносінах з людзьмі ў аспекце адказнасці, сумленнасці выканання слова і чыну, паслухмянасці, вернасці бліжняму і Бацькаўшчыне, шанаванні даверанай працы і навакольнага свету. Усё гэта дапамагае стварэнню матэрыяльных даброт, балазе накірунак духу выліваецца ў бачны чын, паводзіны, учынкі, словы, намеры і думкі чалавека.

Вышэйзгаданыя тры аспекты быцця чалавечага (духоўны, маральны, фізічны) арганічна звязаны між сабою, і парушэнне хаця б аднаго з іх разбівае жыццёвую цэласнасць, вядзе да духоўнай дысгармоніі, душэўнага дыскамфорту.

Такім чынам, кожны святар сам павінен быць маральным, абапірацца на людзей сумленных, а ў храме божым ствараць атмасферу шчырасці, даверу, узаемапавагі. Святар павінен знаходзіць падыход да ўсіх людзей, незалежна ад іх роду занятку, пакакананняў, ступені і характару веры, уплываць і вучыць іх зыходзячы з іх жа разумення жыцця. Аднак абапірацца, акружаць сябе, фарміраваць касцельны асяродак той жа ксёндз мусіць з людзей сумленных, маральных, з вернікаў. Сапраўднымі аўтарытэтамі для людзей духоўных павінны быць аўтарытэты духоўныя, вышэй за ўсё павінен быць не сацыяльны статус чалавека, не яго поспех у кар'еры, нават не адукацыйны і псіхічны ўзровень, а менавіта ступень выяўлення духу. Невыпадкова Божыя запаветы датычаць якраз маральнага ладу жыцця і развіцця чалавека. Іншая рэч, што сувязь чалавека з Богам залежыць ад гатоўнасці чалавека ўспрымаць дух, ад ступені "тонкасці", развіцця чалавека, развіцця агульнакультурнага, інтэлектуальнага, псіхічнага. Маральнасць ёсць праява нашага духу ў фізічным свеце, у сацыяльным жыцці. Маральнасць — гэта, на нашу думку, заўсёды сцвярджэнне, ніколі — адмаўленне. Доказаў таму процьма. Як пісаў Ігнат Абдзіраловіч, "творачы — зруйнуем!"

**У кожным разе распаўсюджванне маральнасці, падтрыманне яе ідзе не ад грамадства — чалавеку, а праз чалавека — у грамадстве. Царква працуе з індывідамі, адзінкамі — з чалавекам, сям'ёю. З адзінак складваецца народ, нацыя, дзяржава.**

З аднаго боку, Царква ў нейкім сэнсе павінна быць незалежнай, надсацыяльнай, каб быць вышэй за зямныя грахі, недасканаласці. З другога ж боку, адарванасць Касцёла ад сацыяльнага жыцця ёсць неўмяшальніцтва яго ў фарміраванне грамадскай думкі, што небяспечнае адкідваннем хрысціянскіх ідэалаў на абочыну жыцця. Асабліва ўзрастае сацыяльная функцыя Хрысціянскай Царквы ў нашых умовах, калі так важна даць элементарныя веды па хрысціянстве, не кажучы ўжо пра ўмацаванне веры. Арыентацыя на шырокія масы вымушае Касцёл быць даступным у прапагандзе веры, вучэння і г.д. Такая даступнасць цягне за сабой некаторае зніжэнне ўзроўню, прымітывізацыю і г.д., а таксама ўступае ў некаторую супярэчнасць з індывідуальным падыходам у душпастырскай дзейнасці, пра што размова ішла вышэй. Спрашчэнне — непазбежнае, бо працаваць душпастырам даводзіцца з рознымі ўзроставымі і інш. групамі. Разам з тым, спрашчэнне не павінна прывесці да прымітывізацыі, скажэння хрысціянскага вучэння.

Такім чынам, уласна-душпастырская дзейнасць вымагае ад ксяндза вялікай падрыхтоўчай работы, найперш работы над сабой: павышэння свайго агульнакультурнага і інтэлектуальнага ўзроўню, вывучэння традыцый таго краю, дзе даводзіцца служыць, каб зразумець менталітэт народа. Толькі ў такім разе душпастырская праца дасць патрэбны плён, бо зразумела, што душпастырства абстрактным быць не можа. Яно выяўляе сябе заўсёды праз канкрэтныя жыццёвыя сітуацыі, што з'яўляюцца якраз выражэннем ментальнасці, ладу думання і жыцця таго ці іншага народа ў пэўным часе.

З 217 ксяндзоў, што служаць сёння на Беларусі, толькі 72 — мясцовыя. Большасць ксяндзоў прыезджыя, і найперш — з Польшчы. Безумоўна, ад святароў, светапогляд і культурныя арыентацыі якіх сфарміраваліся ў іншым, не беларускім асяродку, для засваення ладу жыцця, стылю паводзін, сямейных традыцый і інш. на Беларусі патрабуюцца дадатковыя высілкі, накіраваныя на ўспрыманне блізкіх культур (беларускай і польскай) як адрозных паміж сабой, не тоесных. Гэтая ўнутраная работа можа намі разглядацца як адзін з неабходных этапаў душпастырскай актыўнасці. Зразумела, што ніводная з ініцыятыў, што можа быць прапанавана ксяндзу свецкімі вернікамі ў дачыненні да грамадска-культурнага жыцця на Беларусі, не можа быць ажыццёўлена без дазволу і благаславення Яго Эмінэнцыі Ксяндза Кардынала Казіміра Свёнтэка. Тым не менш, зацікаўленасць, разуменне і актыўнасць саміх ксяндзоў — вельмі пахвальная, асабліва калі ўлічыць іх надзвычайную занятасць, калі колькасць вернікаў рымскакаталіцкай канфесіі расце, а колькасць ксяндзоў, што часам абслугоўваюць па некалькі парафій адначасова, — мала.

Натуральна, веданне спецыфічнай масавай свядомасці людзей крайне неабходна для эфектыўнасці душпастырскай дзейнасці, але далёка недастаткова. Пашырэнне ўплыву хрысціянства на свядомасць людскую, павышэнне агульнамаральнага ўзроўню, узбагачэнне душэўных якасцяў, павелічэнне форм праяў чалавечага духу — вось галоўная задача душпастыра, а мэта — выратаванне чалавечай душы. Гэта азначае, што веданне менталітэту народнага патрэбна для таго, каб, выкарыстоўваючы, абапіраючыся на яго, дайсці да сэрца і розуму кожнага чалавека, узвысіць іх. Ведаць народны, нацыянальны менталітэт патрэбна і для таго, каб "палепшыць" яго, змяніць, асабліва калі народ страціў альбо значна збядніў хрысціянскія ідэалы.

Як нам здаецца, на Беларусі душпастырскія задачы святара могуць быць вырашаны шляхам спрыяння ўсебаковаму адраджэнню, росквіту беларускай нацыі, тлумачэння яго неабходнасці і натуральнасці, выхавання патрыятычных пачуццяў, павагі да традыцый свайго краю, сваёй гісторыі. Бо нацыя — калектыўная індывідуальнасць — таксама Божае стварэнне, якое мае сваё заданне, сваю місію на зямлі, свой шлях да Бога.

Душпастырская дзейнасць у такім шырокім значэнні, як мы яе разумеем, уключае ў сябе ўсе кірункі дзейнасці Касцёла — г.зн. падзяляецца на ўласна-душпастырскую (прамыя, непасрэдныя абавязкі ксяндза, што, як правіла, выконваюцца ў святарскім кананічным аблачэнні), душпастырскую асветніцкую, душпастырскую культурную, душпастырскую гуманітарна-харытатыўную.

З другога ж боку, душпастырская дзейнасць можа быць класіфікавана не толькі паводле яе накірункаў, але і паводле іх канкрэтных выканальнікаў:

1. Абавязкі, якія можа выконваць толькі святар (Імша Святая, Споведзь, Бежмаванне).

2. Абавязкі, якія, апрача святара, можа выконваць і дыякан (Шлюб, Хрышчэнне, Раздаванне Святой Камуніі, Пахаванне, Асвячэнне памяшканняў і г.д.).

3. Праца, да якой допускаюцца і свецкія вернікі, што датычыць катэхетычнай, культурнай, харытатыўна-гуманітарнай і інш. дзейнасці.

У кожным разе, душпастырства на Беларусі мае сваю спецыфіку, звязаную з агульнакультурнай, агульнаграмадскай сітуацыяй у кожны момант часу, са ступенню грамадскай падрыхтаванасці да ўспрымання хрысціянскіх ідэй і г.д.

Менавіта святару, як нікому іншаму, належыць знайсці падыход да кожнага канкрэтнага чалавека, прыняць у сваё сэрца любы боль і любую радасць. А чалавеку так важна ведаць, што яго разумеюць, як прымаюць, яго любяць. Яго падтрымаюць і яму дапамогуць.

ПАМЯЦЬ

# Ён не цярпеў лянoты

22 мая Міколу Федзюковічу споўнілася б 55 гадоў. Усяго 55! А ўжо мінула больш года, як ён пакінуў гэты свет. Беларуская літаратура страціла таленавітага паэта, творчасць якога яшчэ па-сапраўднаму не ацэнена.

На маёй кніжнай паліцы стаяць яго кнігі з цёплымі аўтографамі ды ў шуфлядзе стала захоўваюцца дасланыя ім 24 лісты.

Наша знаёмства адбылося ў Лунінцы, у 1962 годзе. Аднаго дня парог рэдакцыі міжраённай газеты "Ленінскі шлях", дзе я тады працаваў, пераступіў новы супрацоўнік — рослы юнак у паношаным светла-шэрым пінжаку і чорных штанах, якія, не маючы знаёмства з прасам, пузырыліся на каленях. Моцны поціск яго рукі пераканаўча сведчыў, што хлопец звыклы да цяжкай сялянскай працы. Прыехаў ён да нас са сваёй роднай вёскі Гутава, што ў Драгічынскім раёне. І хаця толькі скончыў дзесяцігодку, аднак ужо меў пэўныя навыкі ў журналісцкай рабоце — школьнікам друкаваў заметкі ў раённай газеце.

З першых дзён Мікола ўразіў нас выключнай працаздольнасцю. Ён ахвотна ездзіў у самыя аддаленыя вёскі, знаходзіў цікавых людзей, без затрымкі рыхтаваў матэрыялы да друку.

Са шкадаваннем мы праводзілі яго на службу ў армію. Будучы на службе, ён не парываў сувязі з рэдакцыяй — дасылаў лісты, першыя вершы. Пазней пісаў нам з Масквы, дзе вучыўся ў Літаратурным інстытуце. А ўжо ў 1968 годзе я трымаў у руках падараваны Міколам першы зборнік яго вершаў "Зямля-магніт".

Маленькая кніжачка ў зялёнай вокладцы — усяго трыццаць вершаў. Але ж хіба ў колькасці справа? Для вызначэння паэзіі існуе зусім іншы крытэрый — яе хвалюючае ўздзеянне на чалавека. Дык вось, тыя вершы маладога паэта і сёння хвалююць чытача сваёй жыццёвай праўдай, вобразнасцю, тонкім лірызмам. Ён — дзіця вайны, якая адабрала ў яго бацьку, прынесла людзям неймаверна шмат гора, — перш за ўсё звярнуўся да гэтай балючай тэмы. "Балада пра буслоў", "Балада пра хату" — жудасны ўспамін аб сваім "трохгадовым пякельным дзяцінстве" — і сёння праціпае сэрца чытача. Факты біяграфіі паэт суадносіць з жыццём грамадства. Гэта характэрна і для вершаў першага зборніка, а яшчэ больш для пазнейшых — "Мілавіца", "Птушыны грай", "Макаў цвет".

Яго паэзія непарыўна звязана з яго жыццём. Ён быў шчырым у сваіх вершах і такім жа шчырым у адносінах з людзьмі. Ён быў верным у дружбе, добразычлівым. Колькіх людзей, спрабуючых свае сілы ў літаратуры, ён падтрымаў добрым словам, слушнай парадай, працуючы на Беларускім радыё, літкансультантам "Звязды", "Чырвонай змены".

Мікола абураўся, калі хто дбаў толькі аб сабе, хто абяцаў і тут жа забываў пра гэта. У пісьме, датаваным 20 мая 1992 года, ён піша: "Падрыхтаваў кнігу майго сябра Яўгена Крупенькі, які два гады назад памёр. На хаўтурах усе ягонай сястры кляліся дапамагчы, а пахавалі — і ўсё! Толькі сябе і сваіх хаўруснікаў бачаць. Давялося гэтую ношу браць на свае плечы, а спадчына засталася багатай і думаю, што кніга будзе добрай".

Будучы ўжо вядомым паэтам, не цураўся раённай газеты, нярэдка прапаноўваў ёй свае творы. "У мяне сабралася шмат перакладаў Блока. Можа, да 100-годдзя паэта штонебудзь прыдасца для "Чырвонай звязды" — гляньце, калі ласка". У другім пісьме: "Дасылаю вам рэцэнзію на новую кнігу Ніны Мацяш, свае новыя вершы, артыкул, прысвечаны 100-годдзю Купалы і Коласа. Думаецца, не варта чакаць юбілеяў. Ці не лепш даць гэты артыкул цяпер у некалькіх нумарах? Словам, глядзіце самі". Ён дапамагаў нам прыцягваць да газеты найбольшую колькасць чытачоў.

Паэт ніколі не парываў сувязі з родным Палессем. Калі маці жыла ў вёсцы, Мікола часта пакідаў сталіцу і наведваўся ў родны кут. Тут яму добра пісалася. Ахвотна браўся ён за любую сялянскую працу — мог і за плугам пахадзіць, і з касой пашчыраваць на лузе. Аднойчы я застаў яго за пляценнем кошыкаў з лазы. З-пад Міколавых рук яны выходзілі прыгожымі і надзейнымі.

Вельмі цяжкімі былі апошнія гады жыцця паэта. За кароткі час ён страціў самых блізкіх яму людзей — брата, сына. Даймала бытавая неўладкаванасць. Вось яго пісьмо ад 20 мая 1992 года: "Добры дзень вам у хату, шаноўныя Аляксей Трафімавіч і Надзея Паўлаўна! Даруйце, што адразу не напісаў, хоць і ў хаце сяджу амаль невылазна... Чаму сяджу ў хаце? З-за маці — вельмі хворая, амаль паралізавана: трэба ўсё рабіць самому. Ні часу, ні службы, хоць без яе цяпер немагчыма... На вершы не пражывеш — яны нікому цяпер не трэба... У "Звяздзе", дзе я быў на дамове літкансультантам, мяне "скарацілі". Адно пакуль застаецца — радыё, дзе я вяду перадачу "Шчырага сэрца парывы" і часам выступаю з публіцыстыкай. Але якія цяпер ганарары!"

На мае запрашэнні прыехаць у Іванава адказ адзін: "Ёсць вялікае жаданне прыехаць, але маці слабая, няма з кім пакінуць..." Нават навагодняя віншавальная паштоўка заканчваецца невясёлым тостам:

***Да Новага года***
***хвіліна адна.***
***За што ж нам прыгубіць***
***сягоння віна?***
***За шчасце — ці што,***
***каб не мучыцца ў скрусе?***
***Не веру я ў шчасце,***
***я з ім не ў хаўрусе.***
***Магчыма, нам выпіць***
***віна за любоў?***
***Кахаў я аднойчы,***
***не хочацца зноў!***
***За гора? Да д'ябла!***
***За гора не п'юць!***
***За што ж нам глынуць?..***
***Бо куранты ўжо б'юць.***
***Ах, так ці ўжо гэтак...***
***Ды мне ўсё адно!***
***Я вып'ю за тое,***
***Што ў чарцы віно.***

Вельмі хочацца верыць, што будзе сабрана ўся спадчына выдатнага паэта, у тым ліку і эпісталярная, што будзе выдадзена тое, што засталося ў рукапісах, што яго творчасць нарэшце атрымае дастойную ацэнку.

**Аляксей КАЎКО,**
**заслужаны дзеяч культуры Беларусі**
*г. Іванава*

# На радзіме Эпімах-Шыпілы

Доўгі час большасць жыхароў пасёлка Ветрына на Полаччыне нават не ведалі, што яны землякі выдатнага дзеяча беларускай нацыянальнай культуры прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Але дзякуючы руплівай працы мясцовых краязнаўцаў на чале з настаўніцкай Ветрынскай сярэдняй школы А. Красновай звесткі пра жыццёвы і творчы шлях духоўнага бацькі Янкі Купалы, Цёткі, Бядулі сталі даступнымі кожнаму ветрынцу. У школе створаны музей Эпімах-Шыпілы, на ўрачыстае адкрыццё якога з'ехаліся госці з усёй Віцебшчыны, а таксама з Мінска.

Адкрыццё музея віталі Сяргей Панізнік, Навум Гальпяровіч, Анатоль Канапелька, Ірына Жарнасек, віцебскія краязнаўцы А. Курпсалаў, У. Арлоў, дырэктар Германавіцкага музея Шаркоўшчынскага раёна А. Райчонак і іншыя.

У вёсцы Залессе, дзе быў родавы маёнтак Шыпілаў, удзельнікі ўрачыстасцяў сустрэліся з мясцовымі жыхарамі.

Трэба адзначыць, што ініцыятыва ветрынскіх краязнаўцаў сустрэла водгук і падтрымку з боку раённых уладаў, прадстаўнікі якіх таксама прынялі ўдзел у адкрыцці музея.

**Н. К.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" і часопіса "Крыніца" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі ГУЗЯЛЕВІЧ Раісе Паўлаўне ў сувязі са смерцю свякрыві.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" і часопіса "Крыніца" выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі ШАМЯКІНУ Івану Пятровічу ў сувязі са смерцю жонкі Марыі Філатаўны.**

ПОШТА

# Ці дажывём?

КАЛІ ЎПЕРШЫНЮ пачула ад знаёмых пра забарону ў школе твораў Наталлі Арсеневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва, супакойвала ўсіх: “Гэтага не можа быць! У крайнім выпадку гэтага не можа быць так хутка, адразу, бо неабходна ж нейкае абмеркаванне, бо нават самы высокі загад з самых высокіх інстанцый не можа выконвацца сёння настаўнікамі, выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры, калі ён не мае пад сабой ніякага разумнага грунту. Бо ў нас жа ёсць літаратуразнаўцы, якія лепей ведаюць, чаго варты творы гэтых пісьменнікаў. Бо ў нас жа ёсць яшчэ наша беларускае друкаванае слова. І не толькі тое, што, імкнучыся абразіць, называюць “жоўтай прэсай”. Бо ў нас жа ёсць яшчэ сілы, што не дазволяць такой ганьбы...”

Пэўна, не адна я была гэткай наіўнай.

Рэагаванне з боку тых, хто, “як дзяржаўны служачы, павінен выконваць распараджэнні зверху, хай яны паступаюць нават чынам тэлефоннага званка — аказалася імгненным: забараніць!

Ужо 27.01.1998 г. наша гарадзенская газета “Пагоня” надрукавала артыкул Алены Сіневіч “Ларысу Геніюш рэпрэсавалі ў другі раз”. У ім на самым пачатку пададзена ксеракопія аб’явы, напісанай і вывешанай у настаўніцкай завучам старэйшых класаў СШ N 35 г. Гародні Ганнай Рабавай. Прыводжу яе цалкам на мове арыгінала:

Внимание!
В курсе бел. литературы исключить из программы изучение творчества
Сиднева,
Н. Арсеньевой,
Л. Гениюш
8.01.98 г.
Подпіс

Звярніце ўвагу на дату — ужо 8.01. Якая імгненная рэакцыя — “исключить”! Без усялякага роздуму, без імкнення прааналізаваць: чаму?

Далей аўтарка артыкула задае пытанне, апелюючы да сумлення такога стараннага завуча: “У вас не ўзнікла ніякіх унутраных ваганняў, калі вы пісалі гэты ліст?” Адказ ізноў жа прыводжу цалкам: “Гэта не мая асабістая ініцыятыва. Я, як дзяржаўны служачы, павінна выконваць распараджэнні зверху. Таму, пасля тэлефоннага званка з райана і азнаёміла настаўнікаў з сітуацыяй. А я асабіста люблю Геніюш, Сяднёва, праўда, не ведаю. А Арсенневу, я думаю, зразумела, чаму забаранілі...”

Вось так. Вось такое размеркаванне: Ларысу Геніюш люблю, Масея Сяднёва не ведаю (і гэта — праўда, мяркуючы хоць бы па тым, як было напісана прозвішча паэта ў той абвестцы), а пра Арсенневу... Што тут усім павінна быць “зразумела”? І эўфемізм “азнаёміла” са словам “исключить” мае надта прыблізна “аднолькавае” значэнне. А пасля “тэлефоннага званка”?..

Далей у артыкуле расказваецца, як “тэрмінова былі выкліканы ў кабінет усе выкладчыкі беларускай літаратуры, прыйшоў і дырэктар. Галоўнае, што турбавала адміністрацыю — якім шляхам ліст трапіў у “Пагоню”. Педагогі кляліся ў сваёй добранадзейнасці. Ні ў кога з іх не ўзнікла думка пра маральны бок факту выключэння беларускіх паэтаў з праграмы. Як патлумачылі ў райна, аддзел адукацыі атрымаў ліст намесніка міністра адукацыі Генадзя Дыляна, дзе было прадпісана ў “сувязі са шматлікімі запытамі і публікацыямі ў прэсе не вывучаць у школе творы Сяднёва, Арсеневай і Геніюш”.

Хоць і збітае ўжо параўнанне, але вельмі ж відавочнае: як у 30-ыя, па патрабаванні народа — знішчыць, забараніць.

Недзе ў тым часе я мела магчымасць сустракацца з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. Натуральна, гаворка зайшла і пра гэту забарону. Спытала, хто з іх падпісваўся пад такімі лістамі, ці пытаўся хто іх думку. Ніхто і ніколі. Калі ж я пацікавілася, ці падпісалі б заяву-пратэст супраць той забароны, пераважная большасць аўдыторыі выказалася “за” (было каля паўсотні чалавек). Адна настаўніца, што ўстрымалася, папрасіла ўсё ж яшчэ раз патлумачыць прычыны няміласці да гэтых паэтаў. Найперш — пра Наталлю Арсенневу. Бо што можна казаць пра Ларысу Геніюш, якая столькі адпакутавала. “Имею честь терпеть за Беларусь...” Гэтак годна адказвала катам пра сваю “віну”. У “Споведзі” ўдакладняе свае “правіны”: І — беларуска, 2 — паэтка непаслухмяная, 3 — “кулацкае отродье”, 4 — зэк!!! 5 — хрысціянка, 6 — сын у Польшчы, 7 — сябры па цэлым свеце, 8 — смяротна вінаватая за тастамент...

Што можна сказаць пра Ларысу Геніюш пасля таго, як мы маем і факсімільнае выданне зборніка “Ад родных ніў”, дзе — ні аднаго верша, ні аднаго радка, які ўслаўляў бы фашыстаў, яе праўдзівы тастамент “Споведзь” — наш беларускі “Архіпелаг ГУЛАГ”?..

Калі завуч школы N 35 не ведае творчасці Масея Сяднёва (на жаль, завуч з такімі ведамі роднай літаратуры зусім не выключэнне), то навошта ж, каб вучні ведалі болей за свайго завуча? Навошта, каб яны ведалі, што і гэты цудоўны паэт таксама прайшоў праз сталінскае пекла, ніколі ні ў чым не здрадзіў Беларусі?..

І ўрэшце — “найбольш вінаватая” Наталля Арсенева. Адны і тыя ж абвінавачванні: “фашысцкі прыспешнік”, “здраднік”, “рукі ў крыві”. Абвінавачванні жахлівыя. Асабліва пастараўся пісьменнік Іван Новікаў, які, як многія лічаць, найлепш ведае гісторыю акупаванай Беларусі. Праўда, так не лічыў сам Панамарэнка, што быў на вяршыні арганізацыі падпольнага, партызанскага руху: “Іван Новікаў не ўсё зразумеў у мінскім падполлі” (з артыкула Івана Чыгрынава, змешчанага ў “ЛіМе” 25.11.1994 г.).

Чаму, любячы Ларысу Геніюш, калі гэта любоў праўдзівая, не прыслухацца да характарыстыкі паэткай мужа Наталлі Арсенневай Францішка Кушаля (а яго інакш, як ворагам, не называюць, і гэта яшчэ адна “віна” Арсенневай — жонка ворага): “Мала ў жыцці я сустракала так шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі”.

Прыблізна гэтак гаварыла я перад той настаўніцкай аўдыторыяй. Тая настаўніца, што папрасіла мяне расказаць пра віну Наталлі Арсенневай, сказала: “З-за гэтага я б галасавала за выключэнне яе твораў з праграмы”. Гэтым самым пацвердзіла: ёсць у нашым грамадстве людзі, якіх не пераканаеш, здавалася б, абсалютна лагічнымі доказамі. Але іх — адзінкі. Дык чаму менавіта ім, як тым 14-і падпольшчыкам, што падпісаліся пад артыкулам Івана Мартынава ў “Советской Белоруссии”, дадзена права вырашаць, творчасць якіх беларускіх пісьменнікаў неабходна вывучаць у школе? Чаму не даць магчымасці настаўнікам побач са знаёмствам з творамі Наталлі Арсенневай расказаць і пра той выпадак, з-за чаго яе “рукі ў крыві”? Няхай вучні самі мяркуюць, самі вучацца ацэньваць наша мінулае. Няхай вучні ведаюць пра ссылку паэткі разам з сынамі ў Казахстан, дзе яны перанеслі пякельныя пакуты: сям’я ворага народа. Падумаеш, пані! Яе ж вызвалілі! А тое, што яна там перанесла, тыя жахлівыя здзекі? А само вызваленне? Як дабіралася да Масквы, вярталася назад, басанож бегалі па снезе, бегла да дзяцей, бо не ведала, ці жывыя? Ізноў жа пра паэта найпершае сведчанне — ягоныя творы. Чаму яшчэ раз не перачытаць зборнік паэткі “Сягоння”, выдадзены ў акупаваным Мінску? Ці ж ёсць там хоць адзін радок-хваласпеў немцам, фашысцкай уладзе? Няма. Для гэтага не трэба было грамадзянскай мужнасці? Яшчэ як патрэбна была. Бо кожны антынародны рэжым заўсёды патрабаваў да сябе прыхільнасці. Што казаць пра той жахлівы ваенны час, калі ў савецкія часы ў цудоўныя лірычныя кніжкі беларускіх паэтак урываліся оды, гімны кіруючай партыі і яе мудрым правадырам. Ад адной паэткі даведалася: яе зборнік доўга ляжаў у выдавецтве, ніяк не мог пабачыць свет. Урэшце ёй і “патлумачылі сітуацыю”: “У вас няма ні аднаго верша, прысвечанага партыі, савецкай уладзе”. Напісала. Кніга выйшла хутка. Вершаў-хваласпеваў фашыстам Арсеннева не толькі не ўключыла ў зборнік, іх не было. Было палымянае жаданне будаваць Беларусь. Хай і ў тых варунках. Іншых, больш спрыяльных, не было. Было балючае ўсведамленне, як і ў Ларысы Геніюш: гітлерызм і бальшавізм — і ніякай трэцяй магчымасці для Беларусі.

Якраз зараз 15 гадоў, як няма на зямлі Ларысы Геніюш. Не мінуў і год, як не стала Наталлі Арсенневай. У далёкай Амерыцы Масей Сяднёў. Ягоныя незвычайныя, цудоўныя лісты дапамагаюць мне сёння жыць. Не, не выжыць, а жыць. Прыгожа, годна. Не ведаю, ці паведаміў яму нехта пра гэтую забарону. Я пакуль не асмельваюся. Мне соромна. Я ўсё яшчэ чакаю, што скажуць тыя, хто лепей ведае, чаго вартае творчасць сёння забароненых паэтаў.

Тое, што іх імёны будуць вернуты ізноў, не сумняваюся ні на хвіліну. Бяда толькі, ці дажывем мы да Беларусі, дзе перастануць шукаць ворагаў?

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**
*г. Гародня*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

“Каралеўскае паляванне”, “прэзідэнцкае паляванне”, розныя на паляванні рашаюцца пытанні. А што да здабычы высокіх чыноў, дык вядома месца, дзе прывязваюць дзікоў. І мо ўвесь гэты "саміт"... здагадайся самі.

●

Зусім яшчэ малады салдат, я разам з іншымі фарбаваў травінкі. Інспекцыя. Генеральскі загад і не на такія натхняў учынкі... Чытаў нядаўна пра бірмінгемскі аўрал, вялікая з’ехалася васьмёрка, Ельцын з Масквы, Клінтан з Нью-Йорка, людзі, на якіх спадзяюцца мільёны. *А жывы мой генерал* — і ў Бірмінгеме фарбавалі газоны.

●

Геаметрыя ва ўсіх у крыві, кожны можа прасачыць гэта дзіва: як прасцяк, то прэ напраcткі, як хітрун, то сунецца крыва. У архітэктараў сімвал веры — скверы. Плануюць іх знатакі, карэкціруюць пенсіянеры. Вам да бліжэйшага прыпынку — шыбуйце прама, знойдзеце сцяжынку. Хто пракладваў, калі і як, не скажа цяпер ніводзін дзівак. Дык, можа, усё рабіць на даверы: спачатку сцяжынкі, а тады — *скверы?*

●

На палях дысертацыі: “Свет дробаў і свет цэлых, перакулены свет, дзе ўсё наадварот. Найпрацейшае зрабіць незразумелым, геніяльны ж ідыёт”.

●

Местачковае. Жылося нявесела ў Асвеі. Нехта сказаў: вінаваты яўрэі. З’ехаў з Асвеі апошні яўрэй, нешта не стала жыць весялей.

●

Хваліўся: “Кладу перад псінаю кус мяса, кажу “фу” — і не бярэ”. “Жорсткая дрэсура”, — заўважыў сусед. “І бесчалавечная”, — дадаў сабака.

●

Між паэтаў пайшла мода на двайныя прозвішчы. І вось паэт з двайным прозвішчам бярэ ў жонкі паэтку з двайным прозвішчам. Дзеткі ў іх, у знак *пашаны* да бацькі і маці, пойдуць ужо з чатырохступеннымі прозвішчамі? Quo vadis — куды ідзеш? А што як такое дзіцянятка, не дай Бог, упадзе ў ваду? Пакуль дабягуць, пакуль вымавяць гэта чатырохзначнае прозвішча, будзе позна. Хіба мода зменіцца ці бацькі пяройдуць на прозу без двайных прозвішчаў. А пакуль паэтычнае племя наша пад пагрозай. Мінулай серадой, кажуць, нехта плюхнуўся ў ваду.

●

Чаму не вучаць ветліва адмаўляць: калі за “дрэнна” вякаюць, дык за “для вас гэта дрэнна” дзякуюць.

Пётр БАРЫСЮК

# Экспромты

●

*Ні людская воля,*
*ні господня*
*Не пакажуць*
*нам сапраўдны пуць:*
*Што завецца*
*ІСЦІНАЮ сёння —*
*Заўтра ўжо ПАМЫЛКАЙ*
*назавуць.*

●

*Памылкі спіша бос*
*на спробы,*
*Не пойдзе за грахі*
*пад суд:*
*У нас*
*АДКАЗНЫЯ АСОБЫ*
*АДКАЗНАСЦІ НІЯКАЙ*
*НЕ НЯСУЦЬ...*

●

*Тыя дрэвы,*
*што плады даюць, —*
*Іх часцей ламаюць*
*і трасуць.*

●

*Скажу, закрануўшы*
*хворую тэму:*
*Асобы культ не з-за асобы*
*— з-за Сістэмы.*

●

*Бацькі каб не блукалі,*
*быццам дзеці,*
*Маглі ўсё адэкватна*
*успрымаць,*
*Мне ЎСЕ ІДЭАЛОГІІ*
*НА СВЕЦЕ*
*ІДЫЯТЫЗМАМ*
*хочацца назваць...*

●

*Вучэнні*
*розныя высакародна*
*Абдурыць імкнуліся*
*ўсіх нас.*
*Рэлігію — АТРУТАЙ*
*для народа*
*Вобразна назваў*
*калісьці Маркс.*

●

*Якую толькі*
*ні прымаюць моду,*
*Каб стаць прыемнымі*
*народу!*

●

*Я сам сабе сябар,*
*вораг і брат,*
*Суддзя з пракурорам*
*і адвакат...*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 28.5.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 3291 Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12